

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 20 студзеня 1989 г. № 3 (3465) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


## Да 500-годдзя Скарыны

На мінулым тыдні прайшло чарговае пасяджэнне аргкамітэта па падрыхтоўцы і святкаванні 500-годдзя з дня нараджэння выдатнага дзеяча славянскай культуры, беларускага першадрукара Францішка Скарыны. Пасяджэнне вяла старшыня аргкамітэта, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. М. Мазай.

Заслухана інфармацыя старшыні Мінскага гарвыканкома У. І. Міхасёва і міністра культуры БССР Я. К. Вайтовіча аб стварэнні помніка Францішку Скарыне ў Мінску. Падтрымана ініцыятыва Беларускага фонду культуры аб адкрыцці рахунку па зборы сродкаў на помнік. Заслуханы таксама паведамленні намесніка старшыні Дзяржкамвыда рэспублікі С. А. Нічыпаровіча аб выпуску кніжных выданняў, прысвечаных Ф. Скарыне, старшыні праўлення Саюза мастакоў БССР У. І. Стальмашонка аб распрацоўцы эмблемы юбілею нашага першадрукара і намесніка міністра мясцовай прамысловасці БССР А. М. Вахціна аб рабоце па выпуску сувенірнай прадукцыі ў гонар юбілею Ф. Скарыны.

Рашэннем Савета Міністраў рэспублікі ад 29 лістапада 1988 года імя Францішка Скарыны прысвоена Гомельскаму дзяржаўнаму універсітэту.

На пасяджэнні разгледжана пытанне аб устанаўленні ў гуманітарных вышэйшых навучальных установах чатырох скарынаўскіх стыпендый студэнтам за найлепшыя поспехі ў вучобе.

Даручана Міністэрству культуры рэспублікі, Саюзу пісьменнікаў і Акадэміі навук БССР распрацаваць і ўнесці на чарговае пасяджэнне аргкамітэта прапановы пра правядзенні ўрачыстасцей, прысвечаных 500-годдзю з дня нараджэння Францішка Скарыны ў Мінску і Маскве.

●

У Мінскім ГК КПБ адбылася нарада, на якой разгледжана пытанне аб будаўніцтве помніка Ф. Скарыне, 500-гадовы юбілей якога мы будзем адзначаць у 1990 годзе. Былі абмеркаваны ўмовы конкурсу на лепшы помнік вялікаму асветніку. Выступаючы абмяняліся думкамі аб месцы ўзвядзення помніка ў Мінску.

Вырашана правесці аднаэтапны конкурс на лепшы помнік Ф. Скарыне. Палажэнне і ўмовы конкурсу будуць распрацаваны і зацверджаны ў самы бліжэйшы час. Удзельнікі нарады, абмеркаваўшы некалькі прапаноў, прыйшлі да вываду, што адзіна прымальным месцам для помніка можа быць раён Акадэміі навук БССР.

У абмеркаванні прынялі ўдзел загадчык кафедры скульптуры, народны мастак БССР А. Анікейчык, прафесар БДТМІ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР В. Шарангові́ч, член рэдакцыйнай калегіі па выяўленчаму мастацтву Міністэрства культуры БССР У. Уродніч, начальнік упраўлення «Галоўмінскархітэктура» Я. Кавалеўскі, старшыня Саюза мастакоў БССР, народны мастак БССР У. Стальмашонак, пісьменнікі А. Мальдзіс і М. Лужанін, члены секцыі скульптуры Саюза мастакоў БССР.

Вёў пасяджэнне сакратар Мінскага гаркома партыі П. К. Краўчанка.

## Мы чулі музыку душы тваёй, Арменія

Сыходзіў першы снежаньскі тыдзень. Мы рыхтавалі чарговы нумар «ЛіМа», раз-пораз прыслухоўваючыся да радыё: пра страшную стыхійную катастрофу ў Арменіі ўжо ведалі, чакалі больш поўных, пэўных звестак. І раптам — перадача з Ерэвана. Музычная. Спявала армянская капэла...

Мы ўжо не зважалі на абвесткі назваў, не задумваліся пра слоўны змест незнаёмых народных песень: усё разумелі без тлумачэнняў і перакладу, адчувалі ў спевах боль, стогн, жалобу, і душа наша адгукалася плачам.

Многія не хавалі і не стрымлівалі слёз і цяпер, на канцэртах Дзяржаўнай акадэмічнай капэлы Арменіі ў Мінску. 13 студзеня гэты славуты калектыў, якім больш за чвэрць стагоддзя кіруе лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і Армянскай ССР, народны артыст СССР прафесар Аганес Чакіджан, выканаў у філармоніі «Рэквіем» Д. Вердзі. (Партнёрам быў Акадэмічны сімфанічны аркестр БССР на чале з Ю. Яфімавым). Адбыліся таксама сольныя канцэрты капэлы і кранальная сустрэча з землякамі ў лагеры «Зубраня», які даў прытулак армянскім дзецям, эвакуіраваным з раёнаў стыхійнага бедства.

Са сцэны філармоніі былі выказаны словы ўдзячнасці армянскіх артыстаў беларускаму народу за братнюю дапамогу. Сама ж праграма мінскіх выступленняў капэлы ўспрымалася высокай данінай памяці ахвяр стыхіі.

Мінчане пазнаёміліся з патрыятычнай музыкай М. Екмаляна, захапіліся свежасцю фарбаў у яркіх, непаўторных харах Камітаса, адзначылі высакароднасць і засяроджанасць гучання ва ўрыўках з духоўных і оперных твораў В. Моцарта, Д. Расіні, Д. Вердзі, А. Ціграняна... І адкрылі для сябе адметную асобу харавога дырыжора А. Чакіджана: у артыстычнай, дасціпнай пластыцы маэстра, у акадэмічнай адточанасці жэсту выразна адчувалася, так бы мовіць, не толькі рэжысура, але і драматургія гуку, яго дынаміка, тэмбр, фразіроўка.

Выдатныя магутныя галасы, эмацыянальнасць, адухоўленасць, культура спеваў (дарэчы, усе свае праграмы, у тым ліку творы буйной формы накшталт «Рэквіема», артысты спяваюць на памяць, без нот!) Пра вартасці капэлы разважаць можна бясконца. Але мы спадзяёмся на новыя сустрэчы з армянскімі артыстамі. І не толькі ў Мінску: няма сумнення, што старажытныя сцены Полацкага Сафійскага сабора, дзе пеўчыя галасы гучаць надта гожа, — чуйна ўспрынялі б мастацтва гэтых моцных духам, багатых душою, таленавітых людзей.

**С. ВЕТКА.**



Дзяржаўная акадэмічная капэла Арменіі — у Мінску.
Фота Ул. КРУКА

З ПОШТЫ ГЭТАГА ТЫДНЯ

## ПАДКАЗКА ЦІ ПРЫМУС?

**12—19 студзеня праходзіў Усесаюзны перапіс насельніцтва. Як сведчыць лімаўская пошта, у час візітаў падлікоўцаў у нашы дамы не абышлося без непаразуменняў...**

Хачу выказаць сваё меркаванне адносна інтэрв'ю загадчыка аддзела перапісу і ўліку насельніцтва Дзяржкамстата БССР В. В. Сівянковай («ЛіМ» за 6 студзеня г. г.). На пытанне карэспандэнта, як падлікоўцы будуць вызначаць родную мову людзей, В. Сівянкова адказвае: «...Што датычыць мовы — родная лічыцца тая, на якой прынята гаварыць у сям'і». І далей: «Ніякага ўціску, прымусу, тым больш фальсіфікацыі з боку падлікоўца не павінна быць. Ну, а дапамагчы парадай — гэта, безумоўна, ягоны абавязак». Вось так, «на якой прынята гаварыць у сям'і». Думаю, што не варта доўга пераконваць нікога, што на пытанне, на якой мове гаворыць у сям'і, 99,9 працэнта насельніцтва і сталіцы Беларусі і іншых беларускіх гарадоў адкажуць: «на рускай». З гэтага і вынік будзе зроблены, што родная мова на Беларусі... руская!

Па перапісе 1970 года беларускую мову ў БССР назвалі роднай 6,9 мільёна чалавек. Па перапісе 1979 — ужо 6657 тысяч чалавек. Ну а ў 1989, з ненавязлівай падказкі падлікоўца, мы маем магчымасць зрабіць вялізны крок па шляху «збліжэння» нацый і народнасцей.

**С. АБЛАМЕЙКА,**
**старшы навуковы супрацоўнік Белдзяржмузея народнай архітэктуры і побыту.**
г. Мінск.

●

12 студзеня, у першы дзень Усесаюзнага перапісу насельніцтва, да мяне ў кватэру прыйшлі дзве маладыя дзяўчыны — падлікоўцы. Па чарзе яны задавалі неабходныя пытанні, запісвалі мае адказы. Але вось на пытанне, якая мова для мяне з'яўляецца роднай, яны чамусьці спачатку адказалі самі. І растлумачылі ў адказ на маё здзіўленне, што калі я размаўляю з імі па-руску, то маёй роднай мовай і з'яўляецца руская. Іх маўляў, так інструктавалі... Яшчэ яны дадалі: «Вы хотите, чтобы больше книг, газет и журналов выходило на белорусском языке?»

Вядома, у рэшце рэшт у падліковы ліст усе дадзеныя пра мяне былі ўнесены паводле маіх слоў. А калі б я не заўважыла «самастойнасці» падлікоўцаў? І наогул, ці адзінкавы гэта выпадак?

**Т. БАДЗЮЛЯ,**
**інжынер-энергетык.**
г. Гомель.

●

Калі да нас на праспект Пушкіна прыйшлі збіраць даведкі для перапісу насельніцтва, мяне дома не было, адказы за нас абедзвюх давала дачка, інжынер-праграміст Інстытута біяарганічнай хіміі. Усе яе адказы прымалі на веру, акрамя аднаго... Дарэчы, і пытання такога ёй не задавалі, проста яна заўважыла, што ў графе **родная мова** перапісчыца паставіла **руская**.

— Чаму? — спытала дачка.

— Так нам сказалі.

Нягледзячы на катэгарычны пратэст дачкі, запісы ў графе не былі зменены ні ёй, ні мне (завочна!). Адзінае, чаго дамаглася дачка, — перапісчыца паведаміла ёй сваё імя (Вікторыя Іванчанка) і месца вучобы (педагагічны інстытут).

Хто ж даў такі інструктаж?

**С. КЛІМКОВІЧ,**
**рэдактар СТД БССР.**
г. Мінск.

# *ВЫБАРЫ І НАШ ВЫБАР*

У сакавіку ў адпаведнасці з рашэннямі нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета СССР адбудуцца выбары народных дэпутатаў СССР.

Волевыяўленнем народа будзе сфарміраваны з'езд народных дэпутатаў, дадзены старт новай сістэме дзяржаўных органаў, пакладзены пачатак увасабленню галоўнай ідэі палітычнай рэформы: уся паўната ўлады — Саветам. Гэта будзе буйная вяха на шляху рэвалюцыйнага абнаўлення савецкага грамадства.

Напярэдадні гэтай важнай падзеі ў жыцці краіны Цэнтральны Камітэт КПСС звярнуўся да партыі, да ўсяго савецкага народа са спецыяльным Зваротам, прынятым на Пленуме ЦК КПСС 10 студзеня 1989 года. У Звароце падведзены вынікі першых гадоў перабудовы і прадстаўлены асноўныя напрамкі палітыкі партыі на бліжэйшую будучыню.

У Звароце гаворыцца: «Паслякрасавіцкі вопыт неабвержна паказвае: перабудова адзіна правільны выбар. Іншага шляху ў нас няма. І мы будзем цвёрда ісці ім, працягваць творчы пошук, настойліва ажыццяўляць маштабныя планы пераўтварэнняў, паскараць рух наперад».

## НА ПЛАТФОРМЕ ПАРТЫІ

### *Зварот ЦК КПСС*

Шлях гэты не можа быць простым. Партыя ўсведамляе, што працэс абнаўлення складаны і супярэчлівы, што народжаныя перабудовай, выпакутаваныя грамадствам спадзяванні рэалізуюцца далёка не цалкам. На шэрагу ўчасткаў, у тым ліку ў сацыяльнай сферы, ёсць прабуксоўкі, распачатыя рэформы часам даюць халастыя абароты. Партыя не здымае з сябе адказнасці за гэта. Яна цвяроза ацэньвае абстаноўку, бачыць усё, што тармозіць перабудову. Пераадольваючы цяжкасці і перашкоды, КПСС павышае патрабавальнасць перш за ўсё да сябе, да камуністаў.

Не ў характары нашага народа чакаць манны нябеснай, адзначаецца ў Звароце. У перабудове не павінна быць тых, хто адседжваецца, пабочных і безудзельных. Агульных мэт мы можам дасягнуць толькі аб'яднанымі намаганнямі. Перабудова — наш лёс, шанц, які дае нам гісторыя, і ён не можа, не павінен быць упушчаны.

**Звяртаючыся са сваёй перадвыбарчай праграмай, партыя запэўнівае ўсіх савецкіх людзей, што яна і ў далейшым будзе няўхільна ісці па шляху перабудовы, укладваючы ўсе сілы, калектыўную думку і калектыўны вопыт у рэвалюцыйнае абнаўленне нашага грамадства. Партыя спадзяецца, што кожны з нас будзе актыўным удзельнікам ажыццяўлення намечаных планаў.**

**Партыя зробіць усё магчымае для ажыццяўлення актыўнай сацыяльнай праграмы — праграмы росту дабрабыту савецкіх людзей на аснове якаснага абнаўлення і ўздыму народнай гаспадаркі. Яна прыкладзе максімум намаганняў, каб савецкая эканоміка набыла дынамізм і наватарства, каб значна паскорыўся навукова-тэхнічны прагрэс, павышалася эфектыўнасць грамадскай вытворчасці.**

**Партыя зробіць усё для далейшага развіцця сацыялістычнай дэмакратыі, актыўнага ўдзелу кожнага чалавека ў грамадска-палітычным жыцці і кіраванні, для перамогі сапраўднага, поўнага народаўладдзя.**

**Усюды і ва ўсім партыя будзе праводзіць ленінскую нацыянальную палітыку, ствараць такія ўмовы, каб кожная нацыя і народнасць Краіны Саветаў *жылі лепш, каб паўней і ярчэй* раскрывалася іх нацыянальная своеасаблівасць, багацейшым і мацнейшым станавіўся наш брацкі саюз.**

**Партыя лічыць сваім абавязкам нарошчваць інтэлектуальны патэнцыял перабудовы, ствараць неабходныя ўмовы для фарміравання ўсебакова развітой, грамадска актыўнай асобы. КПСС — за паслядоўнае ўсталяванне ў жыцці нашага грамадства адкрытасці, публічнасці, высокіх гуманістычных ідэалаў і каштоўнасцей сацыялізму.**

**Партыя запэўнівае: наша знешняя палітыка і ў далейшым будзе ўсямерна служыць галоўнай мэце — забеспячэнню мірных умоў жыцця для цяперашняга і наступных пакаленняў савецкіх людзей.**

**ЦК КПСС звяртаецца да рабочага класа, сялянства, да ўсіх працоўных.** Усе планы партыі падпарадкаваны інтарэсам народа. Ад іх выканання залежыць, як будзе складвацца жыццё заўтра, што прынясе дзень будучы. І ўсё гэта — у руках самога народа. Ваша праца, майстэрства, сацыяльная актыўнасць і грамадская пазіцыя — важнейшы залог поспеху. Вылучайце кандыдатамі, падтрымлівайце на выбарах у народныя дэпутаты СССР актыўных прыхільнікаў перамен, мыслячых і дзеючых па-дзяржаўнаму, смела, адказна і маштабна!

**ЦК КПСС звяртаецца да савецкай інтэлігенцыі** з заклікам быць на вышыні яе місіі ў лёсаносны для Радзімы час. Помніце, які глыбокі водгук атрымліваюць ваша слова, ваша думка ў народзе. Па-падзвіжніцку працаваць у імя прагрэсу , аб'ядноўваць людзей, узнімаць і абараняць каштоўнасці сацыялізму, гуманізм і культуру адносін, паказваць асабісты прыклад высакароднасці і кансалідацыі.

**ЦК КПСС звяртаецца да грамадскіх арганізацый** — прафесіянальных саюзаў, ленінскага камсамола, кааператыўных арганізацый, жансаветаў, аб'яднанняў ветэранаў вайны і працы, навуковых работнікаў, творчых саюзаў СССР, іншых фарміраванняў, заклікае іх развіваць грамадскую самадзейнасць і грамадзянскі рух у падтрымку ідэй перабудовы, у імя інтарэсаў народа і мэт сацыялізму.

**ЦК КПСС звяртаецца да камуністаў і беспартыйных, мужчын і жанчын, ветэранаў і моладзі, воінаў Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту — да ўсіх грамадзян з заклікам да аб'яднання на платформе партыі.**

**Няхай будучыя выбары народных дэпутатаў СССР стануць школай дэмакратыі, трыумфам паўнаўладдзя народа!**

## «Не трэба рабіць сенсацыю»,

### — так лічыць журналіст Сяргей НАВУМЧЫК, вылучаны калектывам Віцебскага тэлевізійнага завода кандыдатам у народныя дэпутаты СССР

**Пагодзімся, аднак, што падзея гэтая — не радавая. Нават ва ўмовах цяперашняга этапу выбарчай кампаніі, калі ці не кожны дзень мае сваю дамінанту, прыносіць звесткі, якія часам засмучаюць, часам радуюць.**

**Шматтысячны калектыў аднаго з буйнейшых і, дарэчы, аднаго з самых «інтэлектуальна аснашчаных» прадпрыемстваў Віцебска выказаў давер маладому журналісту, супрацоўніку газеты «Віцебскі рабочы». Вось як, напрыклад, ацанілі гэты факт відавочцы падзеі — перадвыбарчай канферэнцыі тэлезавода — аўтары карэспандэнцыі «Чалавек збоку», змешчанай у «Советской Белоруссии» 15 студзеня:**

**«З дзесяці дастойных прэтэндэнтаў, вылучаных напярэдадні на агульных сходах.., перамог з яўнай перавагай «чалавек збоку». Гэта яшчэ адно сведчанне ўзрастаючай грамадскай актыўнасці людзей, іх зацікаўленасці ва ўсталяванні сапраўднага народаўладдзя, вольнага ад бюракратычных гульняў і дыктату «звыш».**

**Ёсць і яшчэ адна акалічнасць, якая абумоўлівае нашу ўвагу да прэтэндэнта на дэпутацкі мандат па Віцебскай гарадской нацыянальна-тэрытарыяльнай выбарчай акрузе № 79. С. Навумчык—наш аўтар. Чытачы «ЛіМа», напэўна, памятаюць яго выступленні на старонках штотыднёвіка, у прыватнасці, надрукаваны летась артыкул «Мяжа», дзе ставілася пад сумненне ідэя будаўніцтва АЭС на Гарадоччыне. Раскрыем тут і такую рэдакцыйную «таямніцу»: была ў нас дамоўленасць з Сяргеем, што ён падрыхтуе для «ЛіМа» матэрыял пра тое, як праходзіць выбарчая кампанія ў Віцебску. Як ведаць, магчыма, той матэрыял убачыў бы свет менавіта на гэтай паласе... Але—С. Навумчык стаў непасрэдным удзельнікам таго працэсу, які збіраўся па-журналісцку назіраць і аналізаваць.**

**...Набіраю рэдакцыйны тэлефон «Віцебскага рабочага», каб узяць інтэрв'ю ў калегі...**

— Пра вылучэнне мяне кандыдатам у дэпутаты даведаўся літаральна за дзень да канферэнцыі, ні з кім з завадчан дагэтуль не быў знаёмы асабіста, не скажу, каб быў задаволены сваім выступленнем перад такой вялікай аўдыторыяй, і таму вынікі галасавання — поўная для мяне нечаканасць, — сказаў на пачатку гутаркі С. Навумчык. — Больш

## А носьбіт ідэй— інтэлігенцыя...

### Сярод кандыдатаў у народныя дэпутаты краіны — народны мастак СССР Міхаіл САВІЦКІ, вылучаны Беларускім фондам культуры

**Наш карэспандэнт звярнуўся да Міхаіла Андрэевіча з просьбай падзяліцца сваімі думкамі і ўражаннямі ад сёлетняй перадвыбарчай кампаніі, коратка акрэсліць сваю кандыдацкую праграму.**

— Чалавек становіцца грамадзянінам, — сказаў мастак. — «Перабудова можа быць паспяховай толькі тады, калі яе галоўнай дзейнай асобай становіцца чалавек...» Свядома цытую гэтыя словы са Звароту ЦК КПСС да партыі і савецкага народа, бо ў іх — павага да вас, да мяне, да чабана ў далёкім ауле, да ўсіх, хто працуе, хто зацікаўлены ў дэмакратызацыі грамадства. А яшчэ ў гэтых словах — спадзяванне на кожнага з нас: іменна чалавек, якому цяпер дадзена поўнае права быць асобай-творцам, а не робатам-выканаўцам, можа вывесці краіну з эканамічнага і культурнага тупіка, з тупіка аморфнасці і дылетанцтва.

Чаму я сказаў — дылетанцтва? Днямі глядзеў тэлеперадачу пра выбары дырэктара на адным буйным прадпрыемстве. Кандыдатур на пасаду было дзве, пасада, зразумела, адна. Падумалася: а чаму так мала прэтэндэнтаў? І сам сабе адказаў: а дзе іх браць, тых сапраўдных прафесіяналаў-тэхнолагаў, канструктараў, інжынераў, якія б маглі зрабіць пераварот, тую тэхнічную рэвалюцыю, якая б дапамагла нам убачыць перспектывы не такога ўжо далёкага XXI стагоддзя? Няма іх, такіх рэвалюцыя-

## Нечаканасцей не было

БЫЛО ГЭТА ўжо даўно, але надарылася цяпер успомніць. Я тады працаваў у Дзяржынску і па рэдакцыйных справах калі-нікалі мне даводзілася заходзіць да першага сакратара райкома партыі, цяпер ужо нябожчыка, Данілы Майсеевіча Лемяшонка. Вось і ў той дзень сядзім у кабінеце, размаўляем, як увваходзіць сакратарка і кажа, што прыйшла дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, загадчыца фермы аднаго з калгасаў раёна.

— Хай зойдзе, — адказаў Лемяшонак, і праз хвіліну ў кабінет увайшла невысокая паўнаватая кабета з азызлым тварам.

Я ведаў яе. Мне неаднойчы даводзілася з ёй сустракацца і гутарыць. І кожны раз я здзіўляўся яе недалёкасці і элементарнай непісьменнасці. Праўда, некалі яна лічылася перадавой даяркай, і таму, відаць, на яе асобе і спыніліся «наверсе», калі падбіралі кандыдатуру для вылучэння кандыдатам у дэпутаты. Адпавядала, яна, мабыць, усім паказчыкам разнарадкі, дзе давалася арыенціроўка, па якіх анкетных дадзеных падбіраць кандыдатаў па той ці іншай выбарчай акрузе.

**Жанчына села на крэсла і, зазірнуўшы ў вочы Лемяшонку, сказала:**

**— Вы, Даніла Майсеевіч, відаць, забыліся, што заканчваецца мой дэпутацкі тэрмін?**

**— Не, не забыўся, — адказаў той. — А што такое?**

**— Як што? — здзівілася госця. — Хіба я, Даніла Майсеевіч, была дрэнным дэпутатам?**

**— Так сабе, ухіліўся ён ад адказу. — Дык чаго вы ўсё-такі *прыйшлі?***

**— Хачу, каб мяне абралі дэпутатам у другі раз. Мая ферма — лепшая ў раёне.**

**— У другі раз? — перапытаў сакратар, папярхнуўшыся. — Скажыце дзякуй і на гэтым.**

**— Ну, як сабе хочаце, — паднялася з крэсла дэпутатка. — Калі так, то я магу і вышэй пайсці...**

**Дэпутатам на другі тэрмін яна не стала. Дэпутатам «зрабілі» адну саўгасную свінарку...**

БАДАЙ, ці не самая агідная сутнасць сталіншчыны і брэжнеўшчыны нідзе больш так адкрыта і цынічна не праяўлялася, як у нашай «самай дэмакратычнай у свеце» выбарчай сістэме. Ці адчувалі мы гэта? Вядома ж, адчувалі. Народ адказваў на выбары без выбару ўсё ўзрастаючай апатыяй, абыякавасцю да «важнейшай палітычнай кампаніі». У дзень «усенароднага свята» мала ўжо хто спяшаўся першым апусціць свае бюлетэні, многія з нас ішлі галасаваць, прыхапіўшы з сабой пашпарты і запрашальныя паштоўкі дамачадцаў, а то і суседзяў, каб не марнаваць дарэмна час усім.

Сёння мы маем новы выбарчы закон, народжаны перабудовай, дэмакратызацыяй грамадства, рэформай палітычнай сістэмы. На канец сакавіка гэтага года прызначаны выбары народных дэпутатаў СССР. З імі мы звязваем надзеі выкарыстаць рэдкі шанц стварыць сапраўды дэмакратычны, свабодны ад уплыву, уціску адміністрацыйна-казённага «істэблішменту» Вярхоўны Савет. Фарміраванне дэпутацкага корпусу — справа надзвычай складаная. Трэба знайсці, выявіць з мільёнаў людзей самых таленавітых, разумных, дзелавых, адданых справе сацыялізму, здольных абараняць інтарэсы народа ўсёй дзяржавы.

Заканчваецца вылучэнне кандыдатаў у народныя дэпутаты. І, не ў прыклад колішнім гадам, гэтая кампанія суправаджаецца кіпеннем страсцей, вострымі дыскусіямі, гарачымі спрэчкамі. Упершыню, бадай, мы сутыкаемся з сюрпрызамі — раптам даведваемся, што недзе пры вылучэнні кандыдатаў народ пракаціў на вараных самаўпэўненых кіраўнікоў і аддаў галасы людзям радавым, але з акрэсленай грамадзянскай пазіцыяй, смелым і прынцыповым.

Ёсць прыклады і іншага раду. Сям-там нехта з «гвардыі» застойнага перыяду робіць спробы павярнуць перадвыбарчую кампанію ў старое «традыцыйнае» рэчышча, заклікаюць да перадвыбарчага «парадку», перасцерагаюць ад анархіі, «разгулу дэмакратыі».

Ёсць і такі феномен...

ПА ТЭЛЕФОНЕ сакратар парткома Мінскага гадзіннікавага завода Віктар Валянцінавіч Чыкін з непрыхаваным гонарам сказаў мне, што ў іх амаль ва ўсіх цэхах вельмі актыўна прайшло вылучэнне «кандыдатаў у кандыдаты». У 9-м цэху, напрыклад, давялося двойчы праводзіць сход. «Прыходзьце 11 студзеня на канфе-

таго, у першыя дні пасля падзеі псіхалагічна адчуваў сябе досыць напружана, скавана. Раптоўна апынуўся ў цэнтры ўвагі — нехта назваў тое, што адбылося, *«дзіцячай гульнёй»*, нехта ўспрыняў як сенсацыю... І, магчыма, толькі цяпер, калі штодня бываю на заводзе, сустракаюся з людзьмі, якія выказалі мне высокі давер, пачынаю набываць штосьці падобнае на раўнавагу. Пад час гутарак набывае большую пэўнасць і акрэсленасць мая праграма.

**— Скажы, калі ласка, у чым яе сутнасць?**

— У праграме ўмоўна можна вылучыць тры накірункі — сацыяльны, экалагічны і культурны. Хоць, вядома, у нечым яны блізкія, узаемазвязаныя. Напрыклад, не сакрэт, што ў нас досыць нізкі ўзровень медыцынскага абслугоўвання — не хапае бальніц, паліклінік, радзільных дамоў. Затое толькі за апошнія гады ў Віцебску ўзведзены новыя будынкі трох райвыканкомаў, аднаго райкома, прыбудова да аблвыканкома, хутка справіць наваселле абком... Праўда, быццам бы прынята рашэнне перадаць адзін з будынкаў пад дзіцячую паліклініку. Апошнім часам гэта стала ледзь на модай. Я, вядома, не спецыяліст у архітэктуры, але такая шматфункцыянальнасць адміністрацыйных будынкаў мяне здзіўляе: сёння тут выканком, заўтра—раддом... Ці такія ўжо ў нас уяўленні пра ўстановы аховы здароўя: быў бы кабінет, пісьмовы стол і чалавек у белым халаце?

Мяркую, што абыякавасць да здароўя людзей у сукупнасці з кіраўнічымі памылкамі надзвычай ускладнілі, абвастрылі экалагічную абстаноўку на Віцебшчыне. Напрыклад, пры ўсёй маёй павазе да кіраўніцтва вобласці, думаю, што яно не праявіла належнай заклапочанасці і рашучасці ў наваполацкай сітуацыі, паддалося правілам ведамасных гульняў. Трэба катэгарычна ставіць пытанне аб перапрафіліраванні завода БВК. Неабходна таксама ўстанавіць на некаторых віцебскіх прадпрыемствах эфектыўныя апараты па ачыстцы аксідаў цяжкіх металаў — пакуль што на гарадскія звалкі скідваюць тоны гальванічных шлакаў, якія праз грунтовыя воды, прадукты харчавання ў рэшце рэшт трапляюць у арганізм чалавека.

**— Сяргей, ці не тлумачыцца твой *поспех на гэтым этапе* выбараў, тваёй, так бы мовіць, апазіцыйнасцю да ўлад горада, вобласці?**

— Не думаю... Хоць, магчыма, у кагосьці і склалася такое ўражанне — галоўным чынам з-за маіх выступленняў у друку пра мяркуемае будаўніцтва АЭС. Можна толькі пашкадаваць, што ў пэўны момант я не знайшоў падтрымкі ў некаторых адказных асоб. Так, апазіцыя дзеля апазіцыі не мае сэнсу, але я перакананы, што калі справа тычыцца перакананняў, поглядаў, пазіцыі — іх трэба адстойваць рашуча і прынцыпова.

**— Вядома, у тэлефоннай размове няма магчымасці параспытаць больш падрабязна і пра тваю праграму, і пра твае *ўражанні ад падзей, у якіх ты* ўдзельнічаеш. І ўсё ж, калі ідзе гутарка менавіта паміж журналістамі, што б ты адзначыў найперш?**

— Я ўжо казаў, што цяпер шмат даводзіцца хадзіць па заводскіх цэхах, гутарыць з рабочымі. І, ведаеш, адчуў, што духоўная атмасфера ў рэспубліцы цікавіць людзей не менш, чым вырашэнне матэрыяльна - бытавых праблем. Найбольш часта пытаюцца: што такое «Мартыралог Беларусі»? як стаўлюся я да падзей *30 кастрычніка ў Мінску*? дзе і калі можна пазнаёміцца з дзейнасцю аргкамітэта БНФ? І вось, літаральна сёння раніцай: чаму *інфармацыю* пра сойм беларускіх нефармалаў у Вільнюсе змясціла «Правда», а не нашы рэспубліканскія выданні? *Апошняе пытанне яшчэ* больш пераконвае ў неабходнасці Закона аб друку, які б працаваў на перабудову, на развіццё дэмакратызацыі і галоснасці. Як сказаў мне адзін рабочы, вы, журналісты, павінны падпарадкоўвацца толькі дзвюм інстанцыям — народнаму суду і ўласнаму сумленню.

Мяркую, ты пагодзішся, што такі наказ трэба выконваць незалежна ад таго, выберуць мяне дэпутатам ці не.

**— Што ж, жадаю поспеху.**

**Вёў гутарку**

**А. ГАНЧАРОЎ.**

**нераў. Пакуль жа мы купляем тэхніку і тэхналогію за мяжой, тым самым умацоўваючы *няверʼе ў свае здольнасці*, а значыць умацоўваючы і нятворчыя адносіны да справы, той жа дылетантызм. Мы перасталі закладваць у гены іменна таленатасць. Не, я не кажу, што народ перастаў нараджаць таленты. Аднак жа няразвітыя таленты будуць пладзіць неталенавітасць.**

**Возьмем, напрыклад, дзіцячыя сады. Увесь выхаваўчы працэс там будуецца на гульнях. І ў выніку — мы, вобразна кажучы, дагуляліся. А трэба ўжо змалку фарміраваць чалавека працы, закладваць у яго менавіта гэтую патрэбу — патрэбу працаваць. І школа павінна даваць паўнацэнную політэхнічную адукацыю. Што я маю на ўвазе? Перш за ўсё — развіваць з першага класа пачуццё лагічнага і творчага мыслення, творчасць ва ўсіх яе праявах. Пакуль жа наша школа зʼяўляецца інфармацыйным цэнтрам, дзе ўсё пабудавана на запамінанні. На жаль, і ўсесаюзны зʼезд настаўнікаў, які, дарэчы, быў падобны не на форум, а на звычайны дзяжурны сход, і не ставіў задачы будаваць новую школу. Усё звялося да праблемы, як палепшыць кіраўніцтва ёю. Гэтаксама, як, дарэчы, і ў сельскай гаспадарцы, дзе мы ўсё перабудоўваемся і перабудоўваемся, а рэальнага плёну гэтых перабудоў штосьці не відаць. Паўтараю: школа павінна ўзгадоўваць чалавека, які без нейкай дадатковай адукацыі мог бы быць карысным грамадству, мог бы, прынамсі, сам сябе пракарміць. Аксіёма: творчы чалавек заўсёды ў працы. А гэта адзін з кампанентаў маральнага грамадства. Гарманічныя, творчыя асобы павінны дзейнічаць у нас заўтра, не пазней, а не ў нейкай там перспектыве.**

**І яшчэ. Дзяржава—арганізм цэласны, і нельга сказаць, што культура не мае адносін да эканомікі. І вось тут закрану сёлетнюю выбарчую, правільней, пакуль што перадвыбарчую кампанію. Я яшчэ не зусім разумею, якой будзе структура народных дэпутатаў, іх зʼездаў. Аднак з ранейшага вопыту ведаю, што дэпутат адной камісіі не мае ніякага ўяўлення, што робіцца ў другой, а значыць, у рабоце іншых камісій прымаць удзелу не можа. А гэта — не на карысць справе.**

**Выклікаюць у мяне сумненні і тыя «нормы», якія спусцілі зверху на перадвыбарчую кампанію ў творчыя саюзы. Гэта кепска, калі мы вымушаны вось так ашчадна, у рамках гэтых невялікіх квот, выбіраць сваіх таварышаў, адхіляць людзей таленавітых, неардынарных, паграмадзянску актыўных. Наогул, я лічу, што інтэлігенцыя пакуль што стаіць як бы на нейкай адлегласці ад дзяржаўных спраў і клопатаў, быццам яна не зʼяўляецца «движущей силой». А хто ж тады, калі не яна? Менавіта інтэлігенцыя — носьбіт усіх ідэй: навуковых, тэхнічных, мастацкіх... Сталінізм быў антыінтэлігентны. Але і зараз, мне здаецца, у нас таксама не надта паважаюць чалавека інтэлектуальнай працы. І гэтае неадпаведнае, скажам так, месца інтэлігенцыі ў грамадстве — прычына многіх нашых «праколаў».**

рэнцыю дэлегатаў працоўнага калектыву, дзе будуць выбіраць кандыдата ў народныя дэпутататы. Паглядзіце, якая там адбудзецца «бойка», — сказаў пад канец нашай тэлефоннай размовы Віктар Валянцінавіч.

Трэба было так здарыцца, *го на канферэнцыі я акурат* сядзеў сярод прадстаўніц таго 9-га цэха, дзе так бурна выбіралі «кандыдата ў кандыдаты». Я *пацікавіўся ў жанчыны, што* сядзела побач, падрабязнасцямі. Аказалася, што так званы актыў цэха прапанаваў кандыдатуру цэхавага *інструктара па* кадрах Валянціну Хамяк, але большасць рабочых (а ў цэху працуе 400 чалавек) выступіла супраць, прапанаваўшы замест яе брыгадзіра ўчастка Ірыну Каланіцкую. Да брыгадзірства яна шмат гадоў працавала зборшчыцай, карысталася павагай таварышаў за свой баявы характар і прынцыповасць.

«Ну і дзе яна, ваша абранніца?» — спытаў я. Суседка паказала вачыма на жанчыну наперадзе нас. Жанчына, пэўна, чула нашу гаворку, бо азірнулася, усміхнуўшыся. Валасы жанчыны кранула сівізна, але твар быў малады і энергічны. Яна ўздыхнула: «Ведаеце, абралі мяне толькі ўчора, а пасля была другая змена, так што не паспела прадумаць сваю выбарчую праграму...»

В. Чыкін, адкрыўшы канферэнцыю, абвясціў, што ў цэхах было абрана для ўдзелу ў балаціроўцы кандыдатаў у народныя дэпутаты па 66-й нацыянальна - тэрытарыяльнай выбарчай акрузе горада Мінска шэсць чалавек: майстар, член КПСС А. Адаськоў, наладчык, член парткома І. Шышкін, электрык М. Рабіновіч, майстар А. Чарняўская, слесар - інструментальшчык Р. Татур і брыгадзір І. Каланіцкая.

У гэты момант у зале паднялася чыясьці рука і пачуўся *нясмелы мужчынскі голас*: «Мяне завуць Уладзімір Вязевіч, прапаную сваю кандыдатуру для абрання кандыдатам у народныя дэпутаты».

У спіс уключаюць і яго.

— Цяпер паслухаем праграмы нашых патэнцыяльных *кандыдатаў у дэпутаты*, — прапанаваў старшыня сходу.

Адзін за адным прэтэндэнты, сярод іх і «наваспечаны», *падымаліся на трыбуну*, каб выкласці свае праграмы. Вядома ж, гэта былі не праграмы — прамоўцы абмяжоўваліся некалькімі фразамі аб тым, што сёння ў кожнага на вуснах: харчовая і жыллёвая праблемы, барацьба з алкагалізмам, развіццё кааператыўнага руху, дэмакратызацыя грамадства і г. д.

**Мне спадабалася выступленне І. Каланіцкай. Гаварыла яна *без шпаргалкі*, да таго ж змагла, хоць і вельмі сцісла, абмаляваць далёка не зайздросныя ўмовы жыцця і працы жанчын-работніц завода. Гаварыла напорыста, з іранічнымі, нават злымі жартамі, ад якіх сяму-таму ў прэзідыуме рабілася няўтульна.**

**Я на момант уявіў яе на трыбуне залы пасяджэнняў Вярхоўнага Савета СССР, і карціна гэтая, дальбог, не падалася мне нерэальнай. Нехта скажа: не той у яе маштаб мыслення, маўляў, хопіць з нас ужо дэпутатаў — даярак-ударніц і рабочых-перадавікоў, якія толькі ўмеюць падымаць рукі ў час галасавання. Такіх сапраўды хопіць. Але ж не таму, што яны даяркі ці свінаркі, а таму, што па сваіх чалавечых якасцях не былі здатны да дэпутацкай дзейнасці. Зрэшты, гэтая іх дзейнасць наогул не была патрэбна, бо «дэпутаты з народа» выконвалі толькі ролю фігурантаў: каб можна было за іх кошт выстаўляцца на ўвесь свет, што ў нас самы дэмакратычны парламент у свеце, бо складаецца з рабочых і сялян.**

**Адным словам, каб я меў такое права, я прагаласаваў бы за Ірыну Іванаўну Каланіцкую.**

Тым часам «праграмныя» выступленні прэтэндэнтаў закончыліся. Хто пераможа? Мяркуючы па прамовах, па апладысментах, *якімі іх сустракалі*, можна было думаць, што найбольшы шанц быць абранымі ў І. Каланіцкай, І. Шышкіна і Р. Татура.

Пачалося абмеркаванне прэтэндэнтаў. Слова бярэ жанчына з прэзідыума: «Я ведаю таварыша Шышкіна з 1957 года, калі ён прыйшоў на завод. Гэта выдатны працаўнік, ён прымае актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, зʼяўляецца членам парткома. Я заклікаю аддаць галасы за Шышкіна Івана Цімафеевіча».

На трыбуне — прадстаўнік 5-га цэха, дзе працуе Шышкін. Паўтарае амаль тое самае: «Я ведаю Івана Шышкіна 15 гадоў. Гэта добрасумленны працаўнік, прапаную абраць яго кандыдатам у народныя дэпутаты». І яшчэ адзін прамоўца. Гэты, праўда, кажа, што сёння ўбачыў Шышкіна першы раз у жыцці, але, паслухаўшы яго выступленне, вырашыў галасаваць за яго. Потым выступіў начальнік цэха, які таксама заклікаў аддаць галасы за Шышкіна.

Дзіўна, але пра астатніх прэтэндэнтаў чамусьці амаль ніхто не сказаў ні слова, хоць былі на канферэнцыі прадстаўнікі ўсіх цэхаў. Праўда, адзін з прамоўцаў сказаў быў, што рабочыя яго цэха абралі для ўдзелу ў сённяшнім спаборніцтве Ірыну Іванаўну Каланіцкую. Але, зрабіўшы паўзу, вымавіў: «Заклікаю галасаваць за Шышкіна!» У зале заварушыліся, нехта побач з ironіяй сказаў: «І гэтага падгаварылі!».. Я спытаў у сваіх суседак, работніц 9-га цэха, чаму ніхто з іх не выступіць са словам аб Каланіцкай, не закліча галасаваць за яе? «Вы што, не бачыце, што ўсё загадзя вырашана?» — пачуў я.

«Ну што ж, — сказаў старшыня, — больш ніхто выступаць не жадае, прыступім да галасавання». Прагаласавалі. За І. Шышкіна аддалі галасы больш чым 180 чалавек з 200 прысутных. За астатніх? За *каго два, за каго — чатыры галасы*, а Каланіцкая, здаецца, не атрымала ніводнага.

ПАСЛЯ канферэнцыі я спытаў у дырэктара завода У. Абрамчыка і сакратара парткома В. Чыкіна, ці чакалі яны менавіта такога выніку галасавання.

— Так, для мяне гэта не было нечаканым,—адказаў дырэктар.

— І для мяне таксама, — адказаў парторг.

Яны растлумачылі, што загадзя спыніліся на кандыдатуры Шышкіна, бо гэта разумны, энергічны чалавек, карыстаецца павагай рабочых, член парткома.

— За яго прагаласавалі, — заўважыў Чыкін, — бо людзі разумеюць, хто ёсць хто.

Я, ВЯДОМА, нічога не маю супраць кандыдатуры Івана Цімафеевіча Шышкіна. Але будзем глядзець праўдзе ў вочы. У параўнанні з іншымі прэтэндэнтамі ён быў, думаецца, пастаўлены ў больш спрыяльныя ўмовы: за яго спіной стаялі дырэкцыя і партыйная арганізацыя завода. Вядома, гэта іх права падтрымаць кандыдатуру менавіта Шышкіна, але, відаць, не трэба было ім гэты свой выбар хаваць ад рабочых, а тым больш абстаўляць яго «стыхійнай» падтрымкай па ўжо знаёмым, даўно адпрацаваным сцэнарыі. Ці ўмацоўвае гэта веру людзей у дэмакратыю, галоснасць?

Так, сваё права вылучэння кандыдатаў у народныя дэпутаты калектыў гадзіннікавага завода выкарыстаў. Працэдура выбараў была захавана. Але ці была пры гэтым сцверджана дэмакратыя?

**М. ЗАМСКІ.**

# РОДНАЕ СЛОВА... Ў «РОДНЫМ СЛОВЕ»

**Прыемна і радасна было мне, калі атрымала ліст ад доктара філалагічных навук, прафесара, заслужанага дзеяча навукі БССР, пісьменніка Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага, у якім ён не толькі выказаў згоду завітаць у нашу школу, але і паведаміў: «Будуць Янка Брыль, Генадзь Каханоўскі і Арсень Ліс». І хоць Фёдара Міхайлавіча *я ведаю і люблю даўно*, яшчэ са студэнцкіх гадоў, але адна справа — на працягу дваццаці гадоў пісаць лісты і пасылаць віншавальныя паштоўкі, і зусім другое — сустрэць у сваёй школе такіх дарагіх гасцей.**

**У школьнай зале было людна: члены клуба «Роднае слова» нашай школы, вучні старэйшых класаў, члены літаратурнага абʼядання «Спадчына» школы-інтэрната, настаўнікі.**

**Пра гісторыю роднага слова, яго лёс і пакутны шлях, яго носьбітаў расказваў Ф. Янкоўскі. Пра «найчысцейшую з усіх славянскіх моў» гаварыў ён. З цікавасцю ўслухоўваліся вучні ў гучанне слоў «вяселле», «бліскавіца», «немаўлятка», «збожжа», «крыніца»... Упершыню яны пачулі тлумачэнне значэння слова «дашчэнту», даведаліся, што словы «пачатак» і «канец» паходзяць з аднаго кораня. Фёдар Міхайлавіч назваў шмат афарызмаў, крылатых слоў і выразаў, фразеалагізмаў, трапных выслоўяў з твораў Янкі Брыля. І ўсе яны — пра высокую мараль, чалавечнасць, чысціню адносін людскіх...**

**Г. Каханоўскі і А. Ліс расказалі *пра гісторыю нашага* краю, пра нашы вёскі і мястэчкі, слаўных людзей, што жылі на Смаргоншчыне ці бывалі тут. А. Ліс прачытаў вершы У. Караткевіча, сказаўшы пры гэтым, што так рана памерлы паэт «будзіў нашу гістарычную памяць».**

**Звяртаючыся да школьнікаў, Янка Брыль напомніў: «Вы — маладыя, вы — нашы наследнікі. Вы павінны ведаць праўду...» І, мабыць, упершыню з вуснаў пісьменніка прысутныя пачулі праўду пра Максіма Гарэцкага, Кузьму Чорнага і многіх-многіх іншых слаўных літаратараў. Не абышоў Іван Антонавіч і «цяжкіх» пытанняў аб перабудове нашага грамадства, аб тых падзеях, што адбываюцца ў *нашай краіне*.**

**Больш за дзве гадзіны працягвалася сустрэча.**

**Пройдзе час, але я веру, што мае вучні (ды і ўсе прысутныя) неаднойчы ўспомняць цеплыню і шчырасць сустрэчы, цудоўныя ўрокі роднага слова, Праўды, Сціпласці і Дабрыні.**

**А яшчэ пра сустрэчу будуць нагадваць дарагія радкі, што напісалі ў кнізе ганаровых гасцей пісьменнікі: «Радасна было сустрэцца ў клубе «Роднае слова» з сапраўднымі патрыётамі нашай духоўнай спадчыны. Жадаем усім аматарам беларускага слова поспехаў, шчасліва выбраць жыццёвую дарогу».**

**А. РУДКО,**
**настаўніца.**

г. Смаргонь.

# «РАСЛА ТУГА ПА БЕЛАРУСІ...»

**Карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва» гутарыць з Яўгеніяй Эргардаўнай ПФЛЯЎМБАЎМ**



**— Яўгенія Эргардаўна, нядаўна мы пазнаёміліся з вашымі цудоўнымі вершамі, якія былі надрукаваны на старонках «Літаратуры і мастацтва» і «Полымя», прагучалі па радыё і тэлебачанню. Мы адкрывалі для сябе новае імя ў паэзіі. У выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйдзе неўзабаве ваша кніга. Але ж чытачам старэйшага пакалення вядома, што вы пачалі пісаць не сёння і што ваша імя ўжо з'яўлялася калісь у друку... Ці не так? Хацелася б пачуць ад вас асабіста пра пачатак шляху, пра мінулае, пра першыя крокі ў літаратуры.**

— Бацька — Эргард Карлавіч Пфляўмбаўм, чыгуначнік з ліку запрошаных у Мінск немцаў на работу ў дэпо і на паравозах. Маці — Алена Кандратаўна (урodж. Лагун) з Сенніцы пад Мінскам, сірата. Гадавалася ў дзядзькі, саромелася, што была непісьменная, але навучыцца грамаце так і не здолела, хоць, жывучы ў дзедавым доме, наўздзіў хутка навучылася нямецкай мове.

А бацька піў, і адзін, і з сябрамі. І хоць дзед біў яго часам сваёю цяжкою палкай, не суніімаўся. І маці не вытрымала, знайшла сабе прытулак і сышла з дому, забраўшы дзяцей — мяне і старэйшага на тры гады брата. Калі было ўжо вельмі скрутна, маці пасылала мяне да дзеда па грошы. Адмовы не было ніколі. Але дзеці раслі, раслі выдаткі, і маці пачала здымаць кватэру і ад сябе здавала пакоі адзінокім, гатавала ім есці... На пачатку 20-х гадоў выйшла другі раз замуж за свайго кватаранта Уладзіміра Рафаілавіча Сакалоўскага, выхаванца Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, пазней выкладчыка фізікі, дырэктара сярэдняй школы № 1 г. Мінска, добрай душы чалавека. Ён не толькі выкладаў, але, валодаючы літаратурнымі здольнасцямі, перакладаў на беларускую мову падручнікі для школы, вёў грамадскую работу.

Пад яго ўплывам я пачала спачатку чытаць, а потым і пісаць па-беларуску.

На пытанне пра дэбют дае адказ Ніна Барысаўна Ватацы, бібліёграф Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна. Яна зафіксавала як першую маю публікацыю верш, змешчаны ў газеце «Савецкая Беларусь» у 1925 годзе пад назваю «Пялёсткі восені». З гэтага ўсё і пачалося.

**— З тых скупых біяграфічных даведак, якімі суправаджаюцца нядаўнія публікацыі вашых вершаў, відаць, што на пачатку шляху вы не толькі выступалі як паэтэса, але і прымалі актыўны ўдзел у літаратурна-грамадскім жыцці, былі членам «Маладняка», потым БелАППа, уваходзілі ў склад бюро Мінскай філіі «Маладняка» і ў кіраўніцтва ўсяго аб'яднання... Што вам асабліва помніцца з тых незабыўных, маладых, паслярэвалюцыйных 20-ых?**

— У Белпедтэхнікуме, куды я паступіла ў тым жа, дваццаць пятым годзе, прафесар фалькларыст Піятуховіч, выдатны знаўца нашай мовы, рэкамендаваў мяне ў літаратурнае згуртаванне «Маладняк», абмінаючы студыю «Маладняка». Мяне прынялі. Там вучыліся многія маладыя паэты — Паўлюк Трус, Маракоў, Бандарына, Вішнеўская і іншыя. Вучыцца ў тэхнікуме было цікава. Мы часта выступалі з вершамі перад рабочай і вайсковай аўдыторыямі. Мне гэта давалася нялёгка, не хапала смеласці. З захапленнем слухала лекцыі Якуба Коласа, нават правялі «Суд над Лабановічам», у якім я атрымала ролю абаронцы. Канстанцін Міхайлавіч слухаў гэтае «шоу» і з усмешкаю і не без гаркоты.

Тым часам пісаліся і друкаваліся вершы, друкаваліся часцей у «Полымі». Там ахвотна прымаў іх Цішка Гартны. А таксама ў «Савецкай Беларусі», «Звяздзе», «Маладняку». Праз тры гады вучобы ў тэхнікуме я адважылася на конкурс у БДУ і скончыла універсітэт у 1929 годзе. На працягу таго часу з'яўлялася членам «Маладняка», потым БелАППа, уваходзіла ў склад бюро Мінскай філіі «Маладняка» і ў кіраўніцтва БелАППа. Разам з паэтэсамі З. Бандарынай і Н. Вішнеўскай рыхтавалі і выдалі зборнік вершаў. Былі ва ўсіх нас вялікія планы і спадзяванні, не было краю і межаў нашай маладой энергіі...

**— Ваша імя потым знікла са старонак друку амаль на 60 гадоў? Што адбылося? Як складвалася ваша біяграфія потым?..**

— У жніўні 1931 г. выйшла замуж за Лужаніна-Каратая. А неўзабаве пачаліся ліхія часы, пачаўся перыяд рэпрэсій. Многія літаратары былі арыштаваны, у тым ліку і Максім Лужанін. У гэты ж час пачыналася пашпартызацыя. Мяне звольнілі з работы ў газеце «Звязда». Потым нейкі час працавала ў бібліятэцы імя Леніна, рэдагавала «Летапіс беларускага друку»... Друкаванне яго і мая работа былі спынены. Эшалон з рэпрэсіраванымі адпраўлялі ў Сібір. Я праводзіла іх і цвёрда рашыла ехаць услед, хоць і гэта мне было забаронена. Грошай не было, не аддавалі і мною заробленыя. Акадэмія купіла ў мяне першую нашу бібліятэку, і за вырučаныя грошы я набыла білет у далёкую дарогу.

Прыехала ў Марынск Томскі ў марозны снежаньскі дзень. Было нязвыкла холадна. Ніхто мяне не сустракаў, дый і не было каму. На вакзале быў рамізнік, ён запрапанаваў мне пераначаваць у яго, а з раніцы пачынаць пошукі якога прытулку. Усе вольныя памяшканні ў горадзе заняты — едуць жонкі, маткі, нявесты. Раніцай ён завёз мяне ў дамок, гаспадар якога сядзеў у турме. Гаспадыня з малымі дзецьмі гаравала і згадзілася ўзяць мяне, але толькі на кухню. Мне было ўсё роўна, тым больш, што там палілася руская печ. Дзеці былі галодныя, і я аддала ім свой бохан хлеба з Мінска. Назаўтра я пайшла ў школу. Там якраз ад'язджала следам за сынам у другое месца старая настаўніца літаратуры і рускай мовы. Яна блаславіла мяне і пайшла збірацца ў дарогу. Завуч, таксама жонка сасланага музыканта, афармляла мяне толькі з умовай, што я буду выкладаць і ў чыгуначнай школе.

Так пачыналася мая Сібір.

Аказалася, што падручнікаў школа не мае і праграмнай літаратуры толькі па адным экземпляры на клас. Даводзілася чытаць на ўроках уголас па чарзе ўсім вучням. Гэта ім падабалася.

Таксама рабілася і ў чыгуначнай школе.

А дзеці былі як дзеці. Іх цікавіла ўсё: чаму ў мяне нямецкае прозвішча, а вяду я рускую мову, а ў «немкі» рускае прозвішча, а вядзе яна нямецкую мову... Яны на ўроках грызлі кедравыя арэшкі, і зубы праз гэта былі ў іх бялей сібірскага снегу. А да святаў маці вучняў прыносілі ў школу пірагі з чаромхі, частавалі мяне, не знаючы, што я заўсёды галодная, бо зарплата адкладалася на зваротную дарогу.

Праводзіць настаўніцу дамоў прыйшла палавіна вучняў з кожнай школы. А з сіблагаўцаў — Змітрок Астапенка і Змітро Віталін. Імя апошняга не прыгадваецца ў нашых даведніках. Быў ён з рабочых ударнікаў, «закліканых у літаратуру», але друкаваўся мала, да БелАППа, відаць, не дарос. І ўсё ж як праз сон мірсціцца тоненькая кніжачка яго вершаў, назва якой не ўсплывае... Каб не гэты Змітро, надоўга б засела настаўніца на станцыі ў Марынску, цягнікі ішлі не спыняючыся, а калі прастойвалі хвіліну, дык пасажыраў амаль не бралі. А хлопец пацягаў клункі на перон, упрасіў правадніка пасадзіць мяне і доўга стаяў на марозе, глядзеў услед, памахваючы аблавушкаю. Засталася за цягніком снежная палоса тайгі, залатаносная рэчка Кія з мноствам качак... І яшчэ — шырока расплюшчаныя ад прыплыву новых ведаў і цікавых вестак вочы вучняў, невялікае кола новых знаёмых, калег па працы, якія не цураліся і не асцярожнічалі, запрашалі на цудоўнага смаку пельмені і проста на добрую гаворку...

Наперадзе было невядомае...

**— З Сібіры вы вярнуліся ў Маскву. Колькі слоў пра маскоўскі перыяд, пра тое, як далей складвалася ваша жыццё, у тым ліку — ваша паэтычная творчасць.**

— Спыніліся на Кадашоўцы. Там жыла былая жонка брата. Яна моцна любіла яго, а ён, відаць, не дарос да такога кахання, пайшоў да другой. Едучы ў Сібір, я спынялася ў Маскве, бачыла яе. Тады яна сабрала з усіх кішэняў грошы, дала іх мне і сказала: «Не адмаўляйся, хто знае, як давядзецца там...»

Цяпер мы з мужам упэўнена пераступілі яе парог. Бабка, што гадавала Лідачку, унучку, ветліва паказала нам наша месца ў яе пакоі. Там стаялі вялікія маскварэцкія куфры, на якіх можна выдатна спаць, кінуўшы што-небудзь з вопраткі. Да таго ж бабка на сон расказвала байкі для Лідачкі — малая адразу засынала, а рэшту даслухвалі мы. Пасля Сіблага гэта былі райскія ночы. Былі яшчэ ў дадатак прывезеныя з Сібіры белы таежны мёд і мука з чаромхі.

Насупраць Кадашоўкі быў Крэмль, блізка праплывала Масква-рака.

З дня ў дзень мы выходзілі з дому і шукалі работы.

Мае пошукі пачаліся з «Военгиза», які знаходзіўся недалёка. Нібы там патрэбен быў карэктар. Дакументы мае сведчылі, што скончыла беларускі універсітэт. Тады непазбежна ўзнікала пытанне — чаму беларускі і чаму ўслед Сібір? Але карэктура патрабавала вычыткі, і мяне (часова, я разумела) узялі. Ненадоўга. Пры першай праверцы кадраў мне адкрыта сказалі: ваенная літаратура, выбачайце... і гэтак далей...

Выдавецтву наркамата сельскай гаспадаркі таксама быў патрэбен карэктар. Там не адразу агледзеліся, напачатку мяне нават зрабілі рэдактарам і нейкі час трымалі. Хоць крыўдзіліся паважаныя аўтары, чаму я іх праўлю. Рэдактура давала надзею. Ды яна хутка згасла. У аддзеле кадраў сядзела зацятая жанчына. І хоць я ёй сказала ўсё папраўдзе, яна зрабіла свой вывад, пазбавіўшы мяне работы.

Газета «Социалистическое земледелие», куды я трапіла праз нейкі час, добра сустрэла мяне. Работа падабалася, і ніхто пакуль што не гнаў.

А ж раптам, калі я ўжо добра прыжылася, мяне выклікаў рэдактар.

— Вы былі членам «Маладняка»? — спытаў ён.

— Так, была.

— А гэта ж контррэвалюцыйная арганізацыя!

— Няпраўда! — нават крыкнула я.

— У «Звяздзе» вы працавалі?

— Працавала.

— Сярод супрацоўнікаў там быў Лілін?

— Быў.

— Дык ён сцвярджае, што члены «Маладняка» — ворагі народа.

Тут упершыню маё сэрца, як кажуць, «не сработало» і рукі апусціліся. Я тут жа пайшла з рэдакцыі, хоць мне ўслед штосьці гаварылі.

Мая маладосць загадвала мне шукаць далей. І тады надарыўся «Оборонгиз». Работы там было многа і яшчэ ў дадатак мы былі абавязаны вучыць англійскую мову, якая была патрэбна ў прадмовах. Узнікалі тут і іншыя праблемы, як кажуць зараз. Мяне кожны дзень клікалі да галоўнага, і я мусіла вучыць яго рэдагаваць.

А сталай кватэры ў нас усё яшчэ не было, прапісаны былі на куфрах. Пазней жылі на арбацкіх завулках, на Кіслаўцы, на Усачоўцы, у так званым Распуцінскім доме, пабудаваным ім для адзінокіх жанчын. Потым, нарэшце, мне выдзелілі пакойчык у доме для навукоўцаў. Там мяне прапісалі, па часе прапісалі і Максіма, і мы там пражылі сем год. Туды, памятаю, прыязджаў да нас Янка Бобрык з Ленінграда, былы маладняковец, друг юначых дзён. Ён, як малой, прывёз мне цукерак усіх гатункаў, і я перабірала іх, седзячы на ложку. Другой мэблі не было. Усё далейшае жыццё помніла і помню чамусь гэтыя цукеркі.

Выразна праглядваюцца іншыя «кадры»...

«Правда» надрукавала артыкул Шчарбакова аб тым, што дзеці і блізкія «ворагаў народа» не павінны несці адказнасць за бацькоў і братоў. Я прагна прачытала артыкул і праз усю ноч пісала аўтару ліст, адрасаваны ў ЦК КПСС. Асноўны змест: мая работа з сібірскімі дзецьмі ва ўмовах сіблагаўскага гарадка, мая трывога за лёс тых дзетак, за ўласны лёс. Мне пазванілі на работу, каб прыйшла ў ЦК.

Я бегла туды, на гэтую вядомую плошчу Дзяржынскага. Там мне сказалі напісаць усё пра мой жыццёвы шлях, пакінуць напісанае ў іх, а самой ісці ў «Оборонгиз» і працаваць спакойна, ці, можа, крыху адпачыць, схадзіць у тэатр. Апошняе я рашуча адхіліла, але, помню, заплакала ад нахлынуўшага пачуцця.

Назаўтра я прыйшла ў «Оборонгиз». Галоўны рэдактар шчыра павіншаваў мяне і сказаў: «Я рады, што вы здолелі пастаяць за сябе, мы гэтага не маглі б. У якім аддзеле вы хочаце працаваць?»

А вайна ўжо была на парозе, і мяне асцерагалі: «Усіх з нямецкімі прозвішчамі высяляюць з Масквы, прыватныя тэлефоны адбіраюць». Складаліся спісы на эвакуацыю. Абраны быў горад Саратаў. (Малой, заўважу да слова, я пабывала там па дарозе ў Калугу. Мы ўцякалі тады ад немцаў, яшчэ не фашыстаў, бо маці баялася, што адбяруць дзяцей, а матак пашлюць на работу.)

Вайна разгарнула чорныя крылы. Пасыпаліся бомбы на Маскву, і мой «Оборонгиз» падаўся ў Саратаў. Я адмовілася ехаць, бо была хворая маці.

Цяпер мы жылі ад трывогі да трывогі. Дзяжурылі на даху, вучыліся страляць з кулямёта, а па сігнале «Паветра» ішлі пешкі праз усю Маскву на свой аб'ект — на Уланскі завулак. Мне прысвоілі званне байца «Охрана порядка НКАП».

Рэдакцыйная работа не спынялася. Пайшлі франтавыя «маланкі», выпадалі камандзіроўкі на аэрадром (там мяне добра кармілі). А карткі на хлеб часам раптоўна знікалі з рабочага стала. Гэта ўжо было страшна, асабліва калі дома мінус сем. Тым не менш, мы здавалі кроў, пасля чаго стаялі ў чэргах па які-небудзь падмацунак.

Памерла маці. Заплюшчыла вочы рана на вялікдзень. Рускія людзі, масквічы, шанавалі такіх нябожчыкаў: труну паставілі ў царкве і кланяліся ёй. Пасля развітання з маці не было сіл рэдагаваць, працаваць з аўтарамі. Кожны дзень ехала на Ваганькавы могілкі. Расла туга па Беларусі. Мае начальнікі ўрэшце зразумелі, што мяне трэба адпусціць на радзіму. І я паехала ў зруйнаваны Мінск. І тут паліліся вершы. Але я помніла матчын запавет — не выносіць іх на людзі...

зіі добрых намераў». А «калі твор, што належыць да галіны мастацтва, не заслугоўвае ніякай увагі па выкананні, то ён не варты ніякай увагі і па намеры, якім бы пахвальным ён ні быў», - пісаў В. Р. Бялінскі. Сапраўды, чытаючы многія вершы А. Бабаеда, Р. Бялячыца, Я. Мальца, М. Пазнякова, М. Цішурова ў калектыўным зборніку «Лагодны промень раніцы», разумееш, што яны напісаны з самымі добрымі намерамі. Але ці лягчэй ад гэтага чытаць такое, напрыклад, паэтычнае «адкрыццё»:

**Дарога — не проста свет,**
**Дарога — не проста абшар,**
**Дарога — гэта шлях**
**Да няздзейсненых мар.**

Здавалася б, у самы раз падаспела традыцыйная парада паэтам — павышаць культуру радка, узровень мастацкасці, працаваць над формай верша... Але бачу бескарыснасць такіх парад, бо вось, напрыклад, у С. Кавалёва ўсё гэта ёсць — цікавыя думкі, нетрадыцыйная форма, культура радка, паасобку нібыта няма да чаго і прыдрацца, а ўсё гэта разам чамусьці рэдка становіцца вершам, а найчасцей — аповядам аб тым, як бы аўтар напісаў верш.

Апісальнасць, гладкая традыцыйнасць, адсутнасць драматызму, важкай ідэі-страсці цяпер, на фоне тых працэсаў, што адбываюцца ў маладой паэзіі, асабліва кідаюцца ў вочы.

У апошнія гады ў маладой паэзіі ўзнік цікавы і даволі нетрадыцыйны кірунак, які называюць «гарадской», «навуковай», «інтэлектуальнай» паэзіяй (назвы, вядома, прыблізныя і ўмоўныя).

Нядаўна выйшла кніга вершаў А. Глобуса «Парк», якая вымагае, вядома, асобнай і няспешнай гаворкі. Паэт увасабляе нетрадыцыйнае бачанне свету — «на мяжы навукі і прыроды», па-свойму паэтызуе сучасны горад. Мастак па прафесіі, аўтар выяўляе назіральнасць, уменне перадаваць у фарбах адпаведны настрой. Аднак у яго кнізе амаль не раскрываецца духоўны свет чалавека, а без гэтага шмат якія вершы здаюцца эскізамі, дэкарацыямі.

«Гарадской» паэзіі, як у свой час «вясковай», пагражае апісальнасць, што асабліва адчуваецца ў вершах У. Сіўчыкава. Калі традыцыйныя псеўдапаэтычныя атрыбуты — крыніцы, росы, жураўы — замяняюцца «гарадскімі» і мадэрновымі — вітражамі, плафонамі, блокамі, — то гэта яшчэ не дае падставы гаварыць пра наватарства. А значнай грамадзянскай ідэі, мастацкай звышзадачы, болю, які «ратуе», у «гарадскіх» паэтаў, на маю думку, пакуль што няма.

З новых публікацый запомніліся зборнік А. Аркуша «Вяртанне» — імкненнем да роздуму, філасафічнасці, нетрадыцыйнасцю формы (хоць усё гэта яшчэ чакае адпаведнага мастацкага ўвасаблення), вершы Таццяны Сапач, Славаміра Адамовіча, Ганны Івановай, Раісы Аўчыннікавай.

Хацелася б спыніцца на адной з асноўных прычын неадпаведнасці задум і здзяйсненняў у маладой паэзіі — праблеме мовы. З праблемы чытача яна ўсё больш становіцца праблемай самога існавання літаратуры, бо калі старэйшыя пісьменнікі яшчэ маюць «вясковы» запас жывой мовы — то маладыя паэты ў асноўным чэрпаюць са слоўнікаў. Адсюль, з аднаго боку, добрае імкненне да старадаўніх, самавітых і незацяганых слоў, з другога — іх несуладнасць, няўключанасць у кантэкст, у сілавое поле асацыяцый, якое ўтвараецца толькі ў жывой гаворцы.

Наколькі можна меркаваць, пералому ў моўным пытанні ў рэспубліцы пакуль не адбылося. Як піша рабочы Чабатарэнка («Чырвоная змена», 1 снежня 1988 г.), такое становішча з мовай выгадна таму, для каго народ патрэбны ў якасці цеста, з якога можна ляпіць усё, што пажадаеш».

*Працяг тэмы*

Барыс САЧАНКА

# «У сведкі запісы пакліча...»

ЦЭЛЫ паток тэлефонных званкоў, пытанняў, пісьмаў выклікала і публікацыя эсэ-даследавання пра Янку Купалу. Многія знаёмыя і незнаёмыя людзі падзяліліся сваімі версіямі і меркаваннямі наконт загадкі смерці народнага паэта Беларусі, падказалі тое, што ведалі самі. Дзякуй, вялікае дзякуй усім, хто праявіў клопат і жаданне хоць чым-небудзь дапамагчы. Што Янку Купалу як паэта забіла маральна-палітычная атмасфера чорных, крывавых гадоў, не адмаўляе ніхто. Што ж да ўсяго астатняга... Дадалася яшчэ адна версія: Я. Купалу знішчылі фашысты — адпомсцілі за яго палкія прамовы і вершы супраць іх... Але гэта малаверагодна.

Пра апошнія дні Я. Купалы ў Маскве пісала ў сваіх успамінах П. Мядзёлка. На жаль, гэтыя старонкі, з якімі я нядаўна пазнаёміўся, не трапілі ў яе кнігу «Сцежкамі жыцця», якая выйшла ў 1974 годзе ў нас, у Мінску. Праўда, яны няшмат дадаюць да ўсяго, што ўжо вядома, аднак пацвярджаюць, што песняр жыў у гэтыя дні вялікімі клопатамі савецкага народа — як хутчэй прагнаць фашысцкую погань, вызваліць родную зямлю ад акупантаў. Як падказваюць тыя, хто сустракаўся з П. Мядзёлкай перад яе смерцю, яна надта ж перажывала, што не трапіла на пахаванне паэта (пахаванне было назначана на адзін час, а потым па невядомых прычынах перанесена гадзіны на паўтары-дзве раней) і што нейкім зласліўцам, каб, мусіць, скіраваць пошукі вінаватых у іншы бок, адвесці ад іх падазрэнні, заблытаць, замесці сляды, была пушчана плётка, быццам у смерці народнага песняра Беларусі вінавата яна, П. Мядзёлка...

Цікавыя факты паведаміла жонка Міхася Лынькова Софія Захараўна. Яна сказала, што Міхась Ціханавіч гэтак жа, як і Пятро Глебка, цалкам адкідваў думку, быццам Янка Купала пакончыў жыццё самагубствам. Не ў тым настроі быў песняр у апошнія дні свае. Яна, Софія Захараўна, адмаўляе што ў нумары, дзе жыў М. Лынькоў, быў, як я пісаў, «накрыты стол — сякая-такая закуска і выпіўка», сцвярджае: усяго гэтага якраз у той дзень не было, была толькі бутэлька шампанскага. І Янка Купала прыгубляў шклянку з шампанскім, разведзеным вадой. Гэта па-першае. Па-другое, як паведаміла Софія Захараўна, тэлефонны званок М. Лынькову, калі ён папрасіў сяброў выйсці на балкон, быў не нейкі загадкавы ці сакрэтны — званіла Ірэна, літоўская партызанка, з якою беларускіх пісьменнікаў пазнаёміў Пятрас Цвірка. Ірэна збіралася ляцець у тыл ворага і хацела перад адлётам сказаць сябрам некалькі слоў. Янка Купала, даведаўшыся, хто звоніць, папрасіў даць яму тэлефонную трубку. І пагаварыў, калі, у адказ на просьбу М. Лынькова, усе выйшлі на балкон. А тады, не развітваючыся, пайшоў з нумара, сказаўшы напаследак: «Міхаська, я пайду пагляджу, ці не прыйшлі мае госці. Калі іх няма, то хвілін праз колькі вярнуся...» Гэта былі апошнія словы Я. Купалы, якія чуў Міхась Ціханавіч...

Што далей было з Янкам Купалам, калі ён выйшаў з нумара? М. Лынькоў гэтага не ведаў і, як сцвярджае Софія Захараўна, не любіў пра гэта гаварыць, строіць якія б там ні было здагадкі. Прызнаваўся, праўда, што, калі здарылася бяда, усіх, хто быў на той час у яго нумары і яго самога, выклікалі для дачы паказанняў.

У лісце, які быў пасланы з Масквы 11 ліпеня 1942 г. артыстцы Ларысе Мікалаеўне Федчанка, М. Лынькоў пісаў:

**«А цяпер вось я павінен напісаць табе пра вельмі сумныя навіны, пра якія ты, відаць, ведаеш ужо з газет. 28 чэрвеня памёр у Маскве, у гасцініцы «Масква», наш народны паэт Янка Купала. Прыехаў ён пагасцяваць да нас на некалькі дзён з Казані. Прабыў у Маскве ўсяго дзесяць дзён. Гэта вялікая незваротная страта не *толькі для беларускай літаратуры* і нашага народа, але і для літаратуры ўсяго Савецкага Саюза: Купала быў найвялікшым паэтам нашага народа, які прадстаўляў цэлую эпоху ў жыцці народа і яго культуры. Да канца дзён сваіх заставаўся ён лепшым сынам сваёй Радзімы, усёй душой ненавідзеў фашысцкую погань, якая *запаланіла нашу зямлю*. Можаш уявіць маё асабістае гора, калі літаральна за некалькі хвілін да сваёй смерці ён сядзеў у мяне, у маім 1036-м нумары на дзесятым паверсе гасцініцы «Масква». Сядзеў вясёлы, бадзёры, жыццярадасны, марачы аб родных прасторах Беларусі. А калі выйшаў, мне хвіліны праз тры-чатыры пазванілі, што Янкі Купалы няма больш жывога, ён памёр. Гэта было ў адзінаццатай гадзіне ночы 28 чэрвеня. 1 ліпеня яго цела мы аддалі крэмацыі. Урну з яго астанкамі завязем пасля вайны ў родны Мінск, дзе будзе пастаўлены помнік паэту. Такія вось нашы сумныя навіны».**

Па маёй просьбе кандыдат гістарычных навук, галоўны рэдактар часопіса «Советское славяноведение» А. К. Каўко, які жыве ў Маскве, звязаўся з прафесарам Ф. Т. Канстанцінавым — Ф. Т. Канстанцінаў у час вайны быў у блізкіх адносінах з П. К. Панамарэнкам і Ц. С. Гарбуновым і быццам ведаў пра смерць Янкі Купалы, як мне сказалі, «усё». Вось што напісаў пасля гутаркі з прафесарам Ф. Т. Канстанцінавым А. К. Каўко ў лісце да мяне:

**«Фёдар Трахімавіч Канстанцінаў успамінае:**

**— Здарылася гэта «амаль на маіх вачах». У той дзень я паехаў па справах да генерала Яроменкі (пазней маршала)... Дык вось, тады ж у Яроменкі знаходзіўся генерал Раманенка, начальнік маскоўскай міліцыі. Раптам яму звоняць: у гасцініцы «Масква» — «ЧП». Машыны са свістам імчаць да гасцініцы. Тэрмінова і я туды, я ж там таксама жыў. Прыязджаю — ля пад'езда шум, гам, уваход перакрыты, нікога не пускаюць. Хтосьці штосьці расказвае, хтосьці ўдакладняе. Высвятляецца жахлівае: разбіўся Янка Купала. Аказваецца, за некалькі хвілін да няшчасця ў нумары ў Купалы сядзелі госці, сярод іх Лынькоў, журналістка Усіевіч, дачка вядомага польскага рэвалюцыйнага дзеяча, яна тады часта ў «Известиях» выступала... Сядзелі, значыцца, *выпівалі, але ўмеру. Цёпла было*, відаць, душнавата. Купала выйшаў прайсціся па калідоры, праветрыцца. У гасцініцы, калі вы помніце, да цяперашняга часу вельмі нізкія бар'еры лесвічныя, прыкладна на ўзроўні жывата. Паглядзеў ён уніз, магчыма спатыкнуўся, страціў раўнавагу і ўпаў у лесвічны пралёт...**

**Былі ўсякія версіі і падазрэнні. Я ж быў у блізкіх адносінах з Панамарэнкам і асабліва Гарбуновым, які загадваў ідэалагічнымі пытаннямі. Правялі стараннае афіцыйнае і неафіцыйнае расследаванне. Ніякіх дадзеных на зламыснасць (быццам хтосьці пхнуў і г. д.) выяўлена не было. Проста, нахіліўся, перавесіўся...**

**Спрабую, піша А. К. Каўко, удакладніць: ці не маглі Купалу вывесці з раўнавагі падчас «застолля» ў нумары, і паэт, узбуджаны выйшаў з пакою (ёсць і такая версія)?**

**— Не! Лынькоў да Купалы адносіўся самым найлепшым чынам. Якія-небудзь інтрыгі, знявагі выключаны. Адносіны ж да паэта былі ўсеагульна паважлівыя, трапяткія. Вельмі высока ставіліся да яго Панамарэнка, Гарбуноў. Незадоўга перад гэтым у часопісе «Славяне» — там, як помніце, працаваў я рэдактарам — мы надрукавалі яго вершы, іх можна паглядзець. Ды і вяртанне Купалы ў Маскву ўспрынялі як з'яўленне Хрыста народу. Тады ўезд у Маскву быў сурова абмежаваны. А яму дамагліся ўезда, і нумар у лепшай гасцініцы (тады адзінае, відаць, на ўвесь горад ацепленае памяшканне, з гарачай вадой), сустрэлі добра, размясцілі. Пагэтаму меркаванні пра незадаволенасць Купалы неабгрунтаваныя. Пытанне аб прычыне смерці тады ж было высветлена і закрыта».**

Значыцца, найбольш верагоднымі астаюцца тыя ж версіі, што і былі: афіцыйная — Янка Купала сам, спатыкнуўшыся ці па нейкай іншай прычыне, зваліўся ў пралёт лесвіцы; і яшчэ адна: яго ўсё ж скінулі, піхнулі...

Той, хто бываў у сталіцы нашай Радзімы і жыў у гасцініцы «Масква», пэўна неаднойчы праходзіў міма тых бар'ерчыкаў, якімі адгароджаны лесвічныя клеткі ад пляцовак і лесвіц. Яны, гэтыя бар'ерчыкі, сапраўды не высокія — «прыкладна на ўзроўні жывата», хоць і даволі шырокія. Работнікі гасцініцы, з якімі я неаднаразова гутарыў, не помняць, каб хто-небудзь падаў у пралёты лесвіц. Калі б Янка Купала быў п'яны... Але ж Янка Купала п'яны не быў, ды і не мог быць... Версію, што Купала не сам упаў, а яго скінулі, пацвярджаў Л. Шэйнін, які працаваў доўгі час следчым па асабліва важных справах і меў дачыненне да высвятлення абставін смерці нашага народнага песняра. У адной з гутарак ён сказаў: «Купалу памаглі памерці». Хто памог? Жанчына, пра якую ўспамінаюць многія? Магчыма. Але наўмысна, ці ненаўмысна яна гэта зрабіла? Я, ва ўсякім разе, не веру, што ненаўмысна. Не верыў у гэта і П. Глебка, казаў пра смерць Янкі Купалы — нагадаю — як «дыверсію». Хто гэтую дыверсію ўчыніў? Вядома ж, не грабежнікі... Той жа П. Глебка ў адной з размоў з Р. Сабаленкам, пра якую мне расказалі, у лесе ў «Каралішчавічах» за некалькі месяцаў да сваёй смерці прызнаўся, што Я. Купалу знішчыла вядомае берыеўскае ведамства... Гэта неаднаразова *пацвярджаў* у гутарках з сябрамі і Рыгор Раманавіч Шырма, які ў тыя чэрвеньскія дні сядзеў у Маскве на Лубянцы. (Гэты раз, мабыць, у сувязі з дзейнасцю памагатых фашыстаў — беларускіх нацыяналістаў у акупіраваным Мінску, калі пачаліся пошукі «нацдэмаў» ужо сярод беларусаў-бежанцаў). Рыгор Раманавіч (захаваўся магнітафонны запіс) спасылаўся пры гэтым на следчага, які вёў яго справу. На чарговым допыце, яшчэ да таго, як было афіцыйна паведамлена па радыё і ў друку пра смерць Я. Купалы, следчы з радасцю ўжо ў ноч з 28 на 29 чэрвеня аб'явіў: «Ну вось, і з вашым апошнім апалагетам-нацыяналістам мы расправіліся». — «З кім гэто?» — са страхам спытаў Р. Р. Шырма. «Ды з Янкам Купалам. Цяпер за вас возьмемся».

Што гэта — была пагроза ці следчы сказаў больш, чым дазвалялася яму гаварыць?.. А мо думаў — Р. Р. Шырма ніколі ўжо не будзе на волі і нікому не раскажа пачутага.

Версію, што Я. Купала не сам упаў у пралёт лесвіцы, а яго туды скінулі, пацвярджае і ліст Зінаіды Васільеўны Абрамавай — генетыка, доктара сельскагаспадарчых навук, які яна прыслала ў Літаратурны музей Янкі Купалы з Ленінграда на імя галоўнай захавальніцы фондаў Я. Ю. Рамапоўскай. Прыводжу яго цалкам у сваім перакладзе (ліст напісаны па-руску):

**«Пушкін, 4.III.1982 г.**

**Глыбокапаважаная Ядвіга Юльянаўна!**

**Вялікае ўражанне зрабіла на мяне наведванне выдатнага музея Янкі Купалы, дзе так глыбока і пранікнёна паказана жыццё, творчасць і грамадская дзейнасць выдатнага беларускага паэта, які так многа зрабіў дзеля свайго народа.**

**У час наведвання музея я ўспомніла расказ пра яго смерць, які пачула ў 1945 г. Мінула нямала гадоў, я забыла дэталі, але ў памяці маёй захаваўся сэнс гэтага расказа, і я лічу сваім абавязкам паведаміць яго Вам.**

**У красавіку 1945 г. я была ў Маскве на семінары камсамольскіх работнікаў у Палітупраўленні фронта ПВО краіны. У гасцініцы «Масква» са мной загаварыла пакаёўка — яе цікавілі сведчанні тых, хто перажыў Ленінградскую блакаду. У час размовы са мной яна расказала мне пра смерць Янкі Купалы ў гасцініцы «Масква» ў 1942 годзе.**

**Паводле яе слоў за ім увесь час хтосьці сачыў, але работнікі гасцініцы не надавалі гэтаму значэння. Калі ён выйшаў з ліфта пасля сустрэчы з сябрамі, яго сустрэлі тры чалавекі, якія і скінулі яго ў пралёт лесвіцы. Быццам гэта бачыла адна жанчына (?), якая была так напалохана, што адразу ж з'ехала з гасцініцы, баючыся, каб яе не забілі таксама як сведку. Але перад ад'ездам яна расказала пра гэта камусьці з абслугі. Пакаёўка, якая расказала мне ў 1945 г. пра гэта трагічнае здарэнне, лічыла, што гэта была нейкая прадуманая і арганізаваная дыверсія, што паэта забілі знарок кімсьці падасланыя людзі.**

***Я разумею, што мае ўспаміны*** **не могуць быць афіцыйным дакументам, але ўсё ж лічу сваім абавязкам паведаміць Вам пра іх.**

**Хачу выказаць Вам і ўсім арганізатарам і супрацоўнікам музея Янкі Купалы самую шчырую падзяку за Вашу вялікую працу па ўшанаванні памяці выдатнага паэта-грамадзяніна.**

**З глыбокай павагай**
**З. Абрамава».**

Калі я пісаў сваё «Сняцца сны аб Беларусі» (Загадка смерці Янкі Купалы), я не ведаў, што ў Літаратурным музеі Янкі Купалы ёсць успаміны З. В. Абрамавай. Сказалі мне пра іх толькі пасля надрукавання майго эсэ-даследавання. На жаль, пазнаёміцца з імі мне не ўдалося, бо ўспамінаў З. В. Абрамавай не адшукалі. Праўда, знайшоўся яе адрас. Яго мне і дала дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы Ж. К. Дапкюнас. Не марудзячы, я напісаў ліст Зінаідзе Васільеўне, у якім прызнаўся, што збіраю ўсё, што звязана са смерцю Янкі Купалы, і прасіў паведаміць, што яна ведае пра гэта. (Пра публікацыю ў «ЛіМе» свайго эсэ-даследавання пра народнага песняра я ўмоўчаў, як і пра тыя версіі пра яго смерць, што там выказаны). Праз некалькі дзён прыйшоў адказ:

**«Атрымала Ваш ліст і адразу ж адказваю на яго. Пасылаю Вам копію ліста, напісанага мною ў сакавіку 1982 г. пасля наведвання музея Янкі Купалы ў Мінску і знаёмства з Ядвігай Юльянаўнай.**

**На гэты ліст мне ніхто не адказаў, ды я і не думаю, каб трэба было адказваць.**

**У ім я не стала пісаць падрабязна, але сёе-тое пакаёўка тады, у 1945 г., мне расказала яшчэ. Па-першае, Я. Купала нагосьці, мусіць, чакаў, і пасля абеду з сябрамі ў верхнім рэстаране гасцініцы спусціўся ў вестыбюль. У гэты момант да яе (яна дзяжурыла) падышлі маладыя людзі і адзін з іх спытаў, ці прыйшоў да сябе ў нумар Я. Купала. Яна адказала, што не, не прыйшоў. У гэты час яе паклікалі ў адзін з нумароў і, праходзячы міма ліфта, яна бачыла, як з яго выйшаў Я. Купала, якога яна добра помніла. Але яна пайшла па сваіх справах і больш нічога не**

(Працяг на стар. 12).

Пачатак публікацыі ў мінулым нумары «ЛіМа».

# *Маладыя гады, маладыя жаданні*

**У снежні мінулага года адбыўся пленум праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, прысвечаны праблемам выхавання творчай змены. У тыя ж дні ў Доме творчасці «Іслач» праходзіла чарговая, традыцыйная нарада літаратурных пачаткоўцаў.**

**У гасцінным і ўтульным доме-замку, што некалькі гадоў назад паўстаў сярод лесу на беразе пакручастай Іслачы, сабраліся маладыя паэты, празаікі і перакладчыкі. Паэтаў, як заўсёды, намнога болей. І калі празаікі ціха, засяроджана праводзілі свае заняткі ля камїннага цяпельца ў адной з гасцёўняў, дык паэты занялі прасторную кіназалу Дома творчасці і там, «вкруг сойдясь», як пісаў Дзмітрый Кедрын, чыталі і слухалі вершы, дружна хвалілі іх або гэтак жа дружна ганілі, спрачаліся і задавалі пытанні кіраўнікам.**

**Зрэшты, маладыя паэты ў «Іслачы» не толькі вучыліся, як пісаць вершы, але і пісалі іх. Балазе, і творчая атмасфера, якая панавала ў тыя снежаньскія дні ў сценах дома над Іслаччу, і сама маляўнічая навакольная прырода спрыялі нараджэнню паэтычных задум і выкрасанню звонкіх рыфмаў.**

**Сведчанне гэтага — і сённяшняя падборка вершаў удзельнікаў леташняй нарады маладых.**

**Ну а для назвы падборкі мы ўзялі радкі вечна маладога Максіма Багдановіча. Бо паэзія — гэта, несумненна, несмяротнае дзіця менавіта маладых гадоў і маладых жаданняў.**

**Аддзел літаратуры «ЛіМа».**

**Алесь АРКУШ**

## *Катрынка*

Пяць мелодый катрынка спявае,
Толькі ведай — круці рукаятку.
Люд у дзедаву скрынку кідае
Бессмяротнага жыта зярняткі.

Грай, катрынка,
Спявай безупынку.

Лес прачнуўся, дзе зараз палі —
Гонкіх дрэў загулі вершаліны.
Пераспелі на сонцы маліны,
А ў цямрэчы яшчэ не цвілі.

Грай, катрынка,
Спявай безупынку.

Як дакладна чаргуюцца гукі —
Металёвая нудзіцца скрынка,
Спрацаваныя, ссохлыя рукі
Круцяць жыцці ў тужлівай катрынцы.

Грай, катрынка,
Спявай безупынку.

Гук мелодый, як позірк забыты,
Як вада з ледзяшамі ў палонцы.
Люд кідае апошняе жыта,
А ў скрынцы ўсё роўна на донцы..

Грай, катрынка...

**Галіна ДУБЯНЕЦКАЯ**

## *Амарылісы*

Амарылісы, амарылісы
Запалілі у сцюжу пакой.
Пасварыліся, пасварыліся
Сэрца — з розумам, цела — з душой.

Амарылісы, амарылісы,
Гэта вокны сплываюць крывёй.
Раптам раны старыя адкрыліся
І жахнулі сваёй глыбінёй.

Вусны колеру амарылісаў,
Ліхаманкавы неспакой.
Як жа лёгка мы, дружа, скарыліся,
Ледзь крануўшы агонь рукой...

Шкло ў гарачай крыві амарылісаў,
А за вокнамі — сцюжы шал.
Ці ж магчыма, каб шчыра мірыліся
Сэрца — з розумам, з целам — душа?..

Пасварыліся — памірыліся...
Як жа лёгка мы, дружа, скарыліся...

Амарылісы, амарылісы...

## *Да грузінскай мелодыі*

I

Вечар к вуснам пальчык прыклаў,
Воблакі замёрлі ў вадзе...
Зноў заспела памяць нас між горных траў,
Срэбных, як нідзе, як нідзе.

II

І бруіцца мова твая,
Родная імклівай вадзе...
Нашы хвілі зносяць хвалі ручая,
Хутка, як нідзе, як нідзе.

III

Мігаціць агнямі шаша,
Горад мой так звыкла гудзе...
Толькі ўсё блукае басанож душа
Па журлівай горнай вадзе.

**Таццяна ЗІНЕНКА**

## *Беларусы*

На даляглядзе ўсіх вякоў
Мы выжывалі без прымусу.
Няма на свеце ланцугоў
На мову і на беларусаў.

Нам час надарыўся такі:
Мы не разлучымся з сяўнёю.
Ідзём і помнім: «Дзецюкі!
Дык сейце ж поўнаю рукою!»

І сеяць нам да той пары,
Пакуль за нашаю спіною
Нашчадкі нашы — Думары
Не ўзыдуць моцнаю сцяною.

І праплыве наш родны сцяг
Над Беларушчынай зялёнай.
І мова выб'еццa на шлях.
Яна ўцячэ ізноў з палону.

Даволі кпінаў і маны!
Замітусяцца бюракраты,
Бо мову нашую яны
Гвалтоўна кінулі за краты.

А час такі, што без прыўкрас.
І нашай памяці не студзіць.
І нараджаецца ад нас
Народ, які ўжо заўтра — будзе!

## *Мой голас*

Я клічу вас з усіх шляхоў:
Агонь, Краса і Мукі.
Не выйдзе сэрца з берагоў,
Не аслабеюць рукі.

З Агню ў Агонь — і не згару.
І прысакам не стану.
Недасягальную зару
Любіць не перастану.

Краса не знікне уваччу —
І род славянскі гожы.

**Алесь АСТАШОНАК**



# БЕЛАРУСКІ акцэнт

**АПАВЯДАННЕ**

Позним вечарам я ехаў чыгункаю ў камандзіроўку. Вагон быў амаль пусты, але мужчына, які сеў на цягнік на адным паўстанку, спыніўся чамусьці насупраць мяне. Зірнуўшы ўпотайкі на яго — чалавек быў як чалавек і наўрад ці меў да мяне якісьці благі намер, — я працягваў чытаць.

— Прабачце, — запытаўся ён у мяне неўзабаве (па-руску, вядома, выгляду ж быў зусім не вясковага), — у вас для мяне кнігі не знойдзецца?

— Знойдзецца, — палез я ў партфель, адзначыўшы для сябе амаль няўлоўны рух на мужчынавым твары — рэакцыю на беларускае слоўца, нечаканае ў вуснах чалавека, апранутага не па-сялянску ды яшчэ з кнігаю ў руках і з партфелем. Напэўна, ён вырашыў, што ачуўся.

— Я, ведаеце, — растлумачыў незнаёмец, прыязна ўсміхнуўшыся, — і сеў каля вас, бо заўважыў, што вы чытаеце. Падумаў, можа, і для мяне што прышукаеце... Ехаць доўга...

Я працягнуў яму кнігу.

Цяпер ужо ён, пачуўшы маё «калі ласка», здзіўлена ўскінуў вочы.

— Вазьміце, — сказаў ён мне праз якіясьці паўхвіліны, вяртаючы кнігу. — Дзякую.

— Што, не спадабалася? — спытаўся я, прадчуваючы блізкую горыч.

— Я па-беларуску не чытаю, — глуха адказаў мужчына і збіраўся быў перавесці позірк да акна, як раптам стрэліў у мяне пытаннем: — Вы што, заўсёды так размаўляеце?

— Найчасцей так. Калі не з прыезджымі. А самі вы, здаецца, тутэйшы? Беларус?

— Беларус.

— Ну, дык... — пачаў я, але мужчына перапыніў мяне:

— А навошта ўсё гэта? Гаворка вашая, кнігі?.. Чакайце, — прыгледзеўся ён да мяне, запыніўшыся, — вы, мабыць, сам пісьменнік?

— Вы мяркуеце, што ў нас родная мова толькі пісьменнікам і патрэбная? — спытаўся я як мага спакайней: такія размовы ніколі не даюцца мне лёгка.

— Ну а каму ж яшчэ? — адказаў незнаёмец з трохі прыхаваным скепсісам рэаліста, які напаткаў дзівака. — Вы прабачце, можа, вам будзе непрыемна пачуць маю думку, але не трэба гэта нікому і марна — падтрымліваць чэзлае жыццё ў тым, што даўно аджыло і без чаго можна спакойна абысціся.

— Народу — абысціся без сваёй мовы? — Я адчуў, як захрасае ў горле камяк.

— Словы, — абыякава кінуў мужчына. — Усяго толькі словы. Няхай і гучныя. Гэты народ, як, дарэчы, і іншыя, шмат без чаго абыходзіўся, абыходзіцца і не раз яшчэ, паверце, абыдзецца.

— Хлеба і відовішчаў — такая ваша тэорыя? — горка ўсміхнуўся я разважлівасці суразмоўца.

— Чаму ж раптам так прымітыўна? Я свой народ не прыніжаю. Проста трэба ўлічваць рэальныя акалічнасці. І асабліва ў такім народзе, як наш, што гэтак абкарнаны гісторыяй.

— Вы, напэўна, шмат чаго не ведаеце пра свой народ, — спакваля запальваўся я, хоць і столькі ўжо разоў даводзілася чуць усе гэтыя словы ад самых розных людзей у разнастайнейшых абставінах. — Пра яго культуру, гісторыю... Ведалі б, дык і разважалі б інакш...

— Можа быць, — абарваў мяне мужчына. — Толькі ведаць ужо не хачу нічога. Перапісваліся б лепш на рускіх, калі ўжо так выйшла, дый канчалі гэтую цягамоціну. А то ўсё роўна як раненага каня не рашымся прыстрэліць... Каб не мучыўся... Толькі не шукайце довадаў, — зноў апярэдзіў ён мяне. — Дарма.

— Чаму вы гэтак настроены? — запытаўся я ціха, адчуўшы, што давесці хоць нешта гэтаму чалавеку можна толькі ў вельмі спакойнай гаворцы.

— Чаму?.. — памаўчаў ён. — А вось вы паслухайце, што я вам пра сябе раскажу, калі маеце час і я вам не замінаю, можа, і зразумееце. Курыце?.. Не? Тады пачакайце. Ці, можа, выйдзем разам?.. Я шмат куру, а расказваць доўга...

Я ўстаў, і мы выйшлі ў тамбур.

— Нарадзіўся я ў Мінску, — пачаў ён адразу ж, закурваючы, — але бацькі аддалі мяне на выхаванне ў вёску, да бабулі. Калі надышла пара весці мяне ў школу, забралі назад. Як я імкнуўся ў горад, марыў аб ім — мы ж, вясковыя хлапчукі, такія сабе пра яго байкі расказвалі, адна другой прыгажэйшая... Апынуўшыся ў гэтым самым запаветным нябачаным горадзе, пайшоў я, натуральна, адразу ж шукаць сабе сяброў. Калі загаварыў упершыню з гарадскімі хлапчукамі, дык адразу не зразумеў, чаму яны засмяяліся. А смех я іх пачуў неўзабаве... Калі зразумеў, дык яшчэ больш здзівіўся: смяяліся яны з таго, як я размаўляю. З мовы маёй смяяліся, якою гаварыла са мною бабуля, мае былыя сябры — дарэчы, робячы ўсё тое ж самае, што рабілі і гэтыя хлопцы, бо жылі ж мы, трэба сказаць, у гэтакіх самых сялянскіх хатах прыватнага сектара непадалёк ад рэчкі з вялікім поплавам ля яе, і калі я ўбачыў, куды пераехаў, дык здалося, што нічога ў маім жыцці і не зменіцца, хіба толькі трэба будзе сысціся з новымі, незнаёмымі хлопцамі, як ні шкада старых, раз ужо маці сказала, што вучыцца я буду ў горадзе. Але як ні падладжваўся я да тутэйшых мальцоў, чуў толькі смех, які праз колькі хвілін перарос у сцяну адчужэння і болю. Пра што б я ў іх ні запытаўся, мяне адно з'едліва перадражнівалі, так і залліваючыся рогатам: «Дзяроўня, калгаснік...» І, дарэчы, смяяліся першымі не аднагодкі — тыя спярша маўчалі, — а трохі старэйшыя, што вучыліся ўжо ў школе, ну, а меншыя сталі смяяцца за імі ўслед. Калі я са слязьмі на вачах прыбег дадому і расказаў, што здарылася, маці растлумачыла, што цяпер я мушу вучыцца гаварыць так, як гавораць у горадзе. Сказала, хоць сама, як і бацька, вельмі часта ўжывала вясковыя словы. Я запытаўся, чаму мяне не спрабуюць зразумець — я ж пераймаў іх словы! Таму што ёсць вясковая мова і ёсць гарадская, адказала маці, і ў горадзе па-вясковаму не гавораць. «Яны ўсе не з вёскі, як я?» — стала цікава мне. «Як хто», — кажа маці. «А бацькі іх?» — пытаюся. «Бацькі ўсе адтуль». — «Чаму ж тады яны гавораць па-новаму?» Ну ніяк не мог, малы, уцяміць, што тут, у горадзе, з гэтаю моваю робіцца. Тут мне маці ўжо не змагла нічога сказаць, акром таго, што гаварыць мне ўсё ж такі трэба вучыцца па-гарадскому. Не зразумеўшы нічога з таго, што здарылася і што расказала мне маці, я ўсё ж даў сабе слова, што вывучуся гаварыць, як трэба ў горадзе. Назаўтра падышоў да хлопцаў і сказаў, што хачу навучыцца размаўляць гэтаксама ж, як і яны. Калі навучышся, тады і прыходзь, адказалі мне, смеючыся, як і ўчора. А дзе мне было вучыцца гаварыць так, каб яны прынялі мяне ў свой гурт? Тэлевізара ў нашай сям'і тады яшчэ не было, сам-насам з радыё ў пустым пакоі ніякавата, роспачна, пра маці з бацькам я ўжо казаў: не мог вучыцца ад іх, бо

Я не звяду, бо я хачу,
Каб сын мой быў прыгожы.

А Мукі я прашу ў пасаг
У бацькі на прычасці,
Каб да канца жыцця ў вачах
Не адцвітала шчасце.

Няхай з мяне на тых шляхах
Не пасмяюцца людзі.
І голас, што жыве ў грудзях,
Няхай пачуты будзе.

**Алена МАЕЎСКАЯ**

## *Воблакі*

О што быў за дзень такі? —
Адны толькі воблакі
Імчалі, нібы алені,
Прыпадаючы на калені,
І рогі свае скідалі
Ў блакітна-нябесныя хвалі.
О што быў за дзень такі —
І куды яны, дзівакі?
Іх шэрыя статкі радзелі,
Капыты іх пелі: «Надзеі,
Надзеі, надзеі, надзеі!»
І з неба дажджы ляцелі.
О што быў за дзень такі? —
Адны толькі воблакі...

## *Дрэвы*

Хто яе, гэту восень, паклікаў?
Мае дрэвы ў здзіўленні такім...
Як разгубленыя музыкі
Склалі скрыпкі свае і смыкі...

## *Смерць філосафа*

Цыкута саладзей жыцця на свеце
Не здалася Сакрату,
Але ён сказаў сваім катам:
«Вы прыродна належыце смерці».
І людскую спагаду без мітусні
Выпіў усю дарэшты...
І, пэўна, сказаў яшчэ нешта,
Астатнім незразумелае ані.

**Юрась ПАЦЮПА**

## *Пісьмо*

Варонаў крык. Гарлаюць нашча.
А я ў снягах, бы снег, сасніў
туман над выстыглаю пашай.
Маўчаць пасты... Ліпяць агні...

Ранютка, раненаю птушкай
ад дзеда ліст у рукі ўпаў,
і снег балючы ціха тухне...
Стой! Я ж адказу не паслаў.

А там, як толькі зашарэе,
дзед думае: не піша зноў
і чуе, за сцяной завея
калыша свет, халодзіць кроў.

...І дзед не крыўдзіцца ні каліва,
смяецца, што маё пісьмо
у белых гурбах заблукала,
а ўвесну прыплыве само.

## *Уцёкі*

Ты — шараком у лес, нацянькі
па полі,
туды, дзе сонца злазіць з елкі,
падаюць у
рукі арэхі, куды прыбягаюць з палёў
стагі,
але не могуць пралезці ў гушчар, дзе
абыноч ў цёмна-сіняй трывозе
гайдаецца
блакітны холад маладзіка, а цень
твой кажа,
што ты адзін на пажоўклых лістах, што
ў тваім дыханні жыве гэты лес...
Ты нацянькі, а я таксама —
не паспяваю.

**Ігар ПРАКАПОВІЧ**

●

Я душу адпусціў —
хай гуляе на волі.
Вось агонь запалю,
каля вогнішча ноч праваяду.
Буду зоры лічыць,
буду слухаць сцішэлае поле
І глядзець, як туман
абдымае нясмела ваду.
Недзе ёсць гарады,
ліхтары і кватэры,
Ёсць нямала людзей,
у каго я магу пагасціць.
Ды няма цішыні,
і няма каму душу даверыць,
І няма яе з кім
да світання ў туман
адпусціць.

**Лера СОМ**

●

Чарнота ў свеце, чарнота.
У горле — камяк адзіноты.
Самотна, чуеш — самотна!
Гітара — нямой істотай.

Чырвона ў свеце, чырвона
Крывёю згарэла-спалёнай.
Ад пахавальнага звону
Хто мне будзе заслонай?

Шэра ў квеценi, шэра.
Мабыць, такая эра...
Падрыхтавана сякера.
Можа, такая вера.

Бела за вокнамі, бела...
Ну, раскусіла, з'ела?
Што ты яшчэ хацела?

Ранак. Туман ссівелы.

**Сяргей СЫС**

●

Прыжыліся ў памяці
Сіверныя дні,
Снегавыя замеці,
Тлум ды камяні.

Гне незадаволенасць,
Хіліць да зямлі.
Хто ж нам, браце, волі дасць,
Каб і мы жылі?

Каб і гонар мець нам
(Досыць быць нямым!)
Хто ж наш час адметным
Зробіць, як не мы?

Каб з калень узняцца,
Стаць самім сабой.
То — не проста праца,
То — рашучы бой.

**Мікола ШАБОВІЧ**

## *Мае пытанні*

Не спіцца. Хочацца мне мець
Адказ на ўсё, што ёсць,
што будзе,
Каб назаўсёды зразумець,
Што значу я,
што значаць людзі.

Ці так пішу,
ці так люблю?
А, можа, ў нечым памыліўся?
Як зберагчы сваю зямлю,
Каб не зрабілася пылінкай?

Але й тады, засну калі,
У сон мой прыйдуць на світанні
Зямля
і людзі на зямлі —
Мае пытанні.

часта чуў дома негарадскія словы, не кажучы ўжо пра вымаўленне, якое, як я паспеў зразумець, таксама трэба было выпраўляць, а бабуля мая гарадская гаварыла амаль што зусім як вясковая — яны ў мяне абедзве з суседніх вёсак былі. І тут мне пашчасціла. Я пазнаёміўся з дзяўчынкаю, маёй аднагодкаю, што жыла на суседняй вуліцы. Не памятаю зусім, як яна выглядала, але ўпэўнены, што была яна вельмі прыгожая. Ва ўсякім разе, такой я тады яе бачыў. Мы сустракаліся на яе вуліцы і гулялі ў розныя гульні, у якія любяць гуляць дзяўчынкі: у бальніцу, магазін, дзіцячы садочак, школу, тату і маму... Асабліва любіў я гуляць з ёю ў школу, якая здавалася мне цяпер найвялікшай магчымай у горадзе радасцю, бо была яшчэ невядомай... Не ведаю, чаму дзяўчынка, як і я, засталася без сяброў, бо гаварыла чысцютка па-гарадскому, але гуляла яна заўсёды чамусьці толькі са мною. Праўда, бывала яна на вуліцы мала, вучылася ўжо музыцы, і ўвесь астатні час я бавіў адзін. Тады, мусіць, і пачала нараджацца ўва мне схільнасць да адзіноты і смутку. Гэта я з вамі, прабачце, толькі таму разгаварыўся, што чытаць не было чаго, а так з мяне слова, бывае, не выцягнеш... Мова мая сяброўцы смешная не была. Дзяўчынка чамусьці не папраўляла мяне, хоць я і папрасіў яе дапамагчы мне асвойтацца ў горадзе... Мне здаецца, яна мала калі выходзіла з задуменнасці, як і я. Мы няшмат размаўлялі, абое паспелі ўжо стаць у гэтым жыцці негаваркімі. Толькі чаму гэта здарылася з ёю, я ўжо ніколі не зведаю. Нават калі б і сустрэў яе дзе, то ўжо не памятаю, якая яна з твару была... Мы і смяяліся рэдка. Затое часта сумна ўсміхаліся. І ніколі не плакалі, не сварыліся. Што нам было дзяліць, акром нашага смутку і адзіноты?.. Але неўзабаве дзяўчынка некуды знікла. Пераехала. Я яшчэ доўга кожнага дня прастойваў ля яе хаты і ціхенька, схаваўшыся, плакаў. Толькі ўжо ніколі больш не бачыў яе на суседняй вуліцы. Дарэчы, гэтыя з ёю гульні наклалі на мой характар і такі адбітак, што ён у мяне, я сказаў бы, трохі жаночы... Я ж, папраўдзе, мяккі... Сентыментальны нават... Адзінага ж на той час чалавека сустрэў менавіта ў жаночым абліччы. У мяне й цяпер сяброў няма. Адна жонка і дзеці. Ніколі сяброў не было... Але гэта ўжо, даруйце, іншая гаворка... А можа, й не. Усё ж у нашым жыцці ўзаемазвязана. Мне, калі хочаце ведаць, і дагэтуль хочацца верыць, што дзяўчынка гэтая вырасла шчаслівая і нездарма вучылася музыцы, замест таго, каб гуляць, і шмат у жыцці смяялася і смяецца, а не толькі сумна ўсміхаецца...

Мужчына ўсміхнуўся — і я ўбачыў раптам яго па-дзіцячы безабаронным.

— Дзяўчынка паехала, і я застаўся адзін, да самае восені, калі мусіў пайсці ўрэшце ў школу. Прывезлі ж мяне ў горад яшчэ ўвесну, гэта каб я, як казала маці, абжыўся на месцы. Да хлопцаў мне больш не хацелася, і я пазбягаў іх. Цяпер ужо яны самі шукалі сустрэчы са мною: мусіць, іх дзівіла, што я такі самотнік, а злейшыя з іх, напэўна, мелі патрэбу смяяцца з некага. Ёсць яшчэ ў людзях, нават маленькіх — бо глядзяць жа яны на дарослых, — і такая рыса. Я адказваў на іх пытанні адным-двума словамі — «не знаю», «не хочу» — стараючыся, каб словы мае і вымаўленне не былі вясковымі. А ўвесь час, які не бавіў у нашым двары або невялікім садочку, мяне можна было знайсці на поплаве. Там, ля самай ракі, у чароце, які з усяго, што бачыў я ў горадзе, найбольш згадваў мне вёску, было такое месца, дзе я мог гуляць у мае самотныя гульні або назіраць за хлопцамі непадалёк на поплаве. Калі іх там не было, я гуляў як мог, пільнуючыся, каб яны не заспелі мяне знянацку, бо мог жа пад час іх прыходу выдаць сябе залішнім гвалтам — я ж яшчэ і размаўляў уголас, а то нават і крычаў, гульня ўсё-такі... Калі ж яны з'яўляліся, заціхаў і падглядваў за імі. Нейкі час не надта яны ў мяне выходзілі, гэтыя гульні, разыграныя мной адным, але спакваля я навучыўся мець ад іх радасць, не адчуваючы крыўды, што не давала мне забыцца спачатку. І не так ужо цяжка было мне гэтаму навучыцца, тым больш, што гульні былі тыя ж самыя, вясковыя: трэба было толькі ўявіць, што я не адзін. Я сам ад сябе хаваўся, сам сябе і шукаў... Некалькі разоў хлопцы ўсё ж вылоўлівалі мяне па дарозе з вуліцы на поплаў ці назад і, здаралася, лупцавалі. Але гэта было не самай вялікай маёй крыўдаю: мяне ж усяго толькі лупцавалі, і ніхто з мяне не смяяўся — бо крыўднымі словамі, якія ведаў з вёскі і якія так і гатоў быў выкрыкнуць, я ўсё ж, баючыся зноў пачуць смех, не аказваўся, а хлопцы толькі таго і чакалі, каб пачуць ад мяне вясковае слова. Нарэшце настала пара ісці вучыцца. Як жа я радаваўся, калі маці купіла мне і дала ўсё, што трэба было ўзяць з сабою ў школу... Я ішоў у новы свет, спадзеючыся, што знайду там новых сяброў і маё жыццё нарэшце ўсё-такі пераменіцца. Але ў школе я пачуў той самы смех, зноў спярша ад старэйшых хлопцаў, а пасля і ад сваіх аднагодкаў. Тая ж дзяўчынка, што з'ехала з суседняе вуліцы, гаварыла са мною няшмат, і я так і не навучыўся размаўляць як след па-гарадскому. Прыйшоўшы са школы дадому, я зноў знайшоў спакой у чароце. Гуляў у ім у справядлівую школу, дзе вучыліся разам са мною мае вясковыя сябры і тая дзяўчынка. А ўвечары папрасіў маці адправіць мяне назад у вёску вучыцца ў тамтэйшай школе. Пагаварылі, і ад плачу абое ледзь не зайшліся. Маці ўвогуле знарок не брала мяне з сабою, калі ездзіла да бабулі — гэта каб я адвучваўся ад вясковай гаворкі. Засталося скарыцца. Шкадую цяпер, як згадаю, бацькоў. Вучыўся я гэтак дрэнна, што і ўявіць сабе нельга: мяне ў адзін голас лічылі найдурнейшым у класе. Калі на ўроках мае аднакласнікі выводзілі лічбы і літары, я намагаўся адно каб не заплакаць, бо зноў і зноў згадваў пачуты на пераменках смех, асабліва старэйшых, якія прыходзілі паслухаць, як размаўляе «дзяроўня». Я ўжо стаў такі затурканы, што адказваў, як мог, пра што б у мяне ні пыталіся, адчуваючы, што з мяне здзекуюцца, нават пра тое, як пасвіў з бабкай кароў, з чаго ўсе чамусьці найбольш рагаталі. Мне і мянушку далі — «Пастух». Куды мне было схавацца ад гэтага смеху? Чароту ж тут не было... Нарэшце я ўсё-такі дадумаўся, што трэба зрабіць, каб не хадзіць у школу. Схаваў усё, з чым хадзіў у школу, у запаветным месцы ў чароце — вырашыў, што буду вучыцца там неяк сам, адзін — і прыйшоў дадому шчаслівы-шчаслівы. Але трэба было яшчэ ўпершыню ў жыцці падмануць бацькоў. І ўдалося, як ні цяжка было. Я сказаў, што ўтапіў усе свае прычындалы ў вадзе, каб не ісці болей у ненавісную школу. Паспеў ужо зразумець, што ў сям'і з грашыма цяжка, і цяпер быў упэўнены, што купіць мне ўсе новыя патрэбныя транты бацькам не пад сілу будзе. Спачатку бацька са злосці так і сказаў: «Гэты балбес у школу болей не пойдзе, няхай ідзе са мной на завод рабіць» — і ўпершыню ў жыцці моцна мяне біў. Тады я не вытрымаў, мне ўвогуле расхацелася вучыцца ў якойсьці школе, нават у той, што вырашыў наладзіць сам, у чароце, не падумаўшы, праўда, пра блізкую зіму, — і крыкам крычаў, прасіў у маці адправіць мяне назад у вёску пасвіць разам з бабкай кароў. «Я пастух! — плакаў. — Пастух — і болей нікім не буду!» Маці доўга плакала, бацька суцешваў яе, і абое не ведалі, што ім рабіць з гэтакім сынам і куды мяне дзець. «Ён у вас дурачок, мусіць», — мовіла мая гарадская бабуля. Але я не пакрыўдзіўся: надта ўжо часта чуў гэтае слова ў школе і прызвычаіўся да яго, як і да несправядлівасці ў свеце, якую лічыў цяпер галоўнай адзнакай гарадскога жыцця — справядлівасць канчалася там, адкуль мяне вывезлі. А ўначы пачуў, як казаў маме бацька: «Не паслухала мяне, адправіла ў сваю дзярэўню, вось і мучаемся цяпер. Было б дзела, калі б мы яго ў садзік аддалі». Ад крыўды на бацькоў я ледзь слязьмі не захлынуўся: «Дык яны б яшчэ ў садзік мяне аддалі, зноў на смех!» Зусім не разумеў, дурань, што тады б я не гаварыў так, як цяпер, і не зведаў бы, значыцца, усіх перажытых пакутаў... Маці, вядома, купіла мне зноў усю неабходную амуніцыю, забрала са школы мае дакументы і, перш чым перавесці ў новую школу, месяц вучыла мяне гарадской мове з нанятаю рэпетытаркай...

Скончыўшы, мужчына зазірнуў мне ў самыя вочы.

— Цяпер вы ўсё зразумелі?.. І як жа, дарэчы, вы загадаеце мне любіць нашых пісьменнікаў, выдатных майстроў роднага слова, творы якіх мы ўсе праходзілі ў той самай школе?.. Я разумею таксама: не ўсё так проста ў нашым жыцці... Але мяне ж дражнілі, калі хочаце ведаць, не толькі пастухом, але і вашымі, пісьменніцкімі, імёнамі і прозвішчамі!.. Дзе ж вы былі тады, дарагія таварышы?

Ён апякаў мяне сваім горка-насмешлівым позіркам, пакуль не працяў раптам нейкай новай зусім, няхай і затоенай, інтанацыяй:

— Дый цяпер дзе?.. Гэта калі па-сапраўднаму?.. Яшчэ ж не адзін, мусіць, такое, што я, перажывае...

У гаворцы яго пачуўся так яшчэ і не вынішчаны беларускі акцэнт — усё роўна як жывая травінка прабівалася скрозь асфальт.

«Каткі ці насенне ў вашых руках?» — прамільгнула ў ягоных вачах дакорлівае пытанне.

І тут мне конча адкрылася прыхаванае ў ім: ён хоча мне верыць.

# «У сведкі запісы пакліча...»

(Пачатак на стар. 7).

**бачыла. Калі яна вярталася на сваё рабочае месца, яе перахапіла жанчына, папрасіла тэрмінова прыняць у яе нумар. Жанчына была страшэнна напалохана і сказала, што толькі што была сведкай жахлівага злачынства. І павінна неадкладна паехаць. У гасцініцы была страшэнная мітусня, і сведкі былі вельмі напалоханы...**

**Нават мне, што бачыла смерць блізкіх і дарагіх людзей у блакадным Ленінградзе, што развітвалася навечна з сябрамі на фронце, было так горка даведацца пра смерць Янкі Купалы. Для мяне ён быў і застаецца выдатным паэтам, вялікім сынам Беларусі. Я добра ведала яго творчасць яшчэ да вайны, у маладосці. Многія яго вершы ведаю і люблю і цяпер...**

**Вядома, яго смерць — страшная трагедыя...**

**З глыбокай павагай,**
**шчырым пажаданнем**
**поспехаў**
**З. Абрамава.**

**Р. S. Пра сябе: У блакаду была санітаркай у шпіталі, ратавала галодных напаўмёртвых дзяцей і параненых салдат. З 19.IV.42 г. — Ленінградскі фронт, радыстка. Потым — камсорг палка, лейтэнант. У 1945 г. закончыла экстэрнам два апошнія курсы сельскагаспадарчага інстытута. Абараніла кандыдацкую дысертацыю, у сорак тры гады — доктарскую. У 1966 г. у Ленінградскім сельскагаспадарчым інстытуце стварыла і 21 год загадвала кафедрай генетыкі. Цяпер з 1987 г. — на пенсіі, пішу падручнікі, кірую аспірантамі, г. зн. па сутнасці працую».**

На ўсе «сто працэнтаў» была пераканана ў тым, што Янку Купалу знішчыла берыеўскае ведамства, жонка паэта Уладзіслава Францаўна. Яна нават называла прозвішча жанчыны, якая дапамагала гэта зрабіць вядомаму ведамству. Не, гэта была не Паўліна Мядзёлка... Як паведаміла мне Н. Б. Ватацы, аднойчы яна паклікала Уладзіславу Францаўну ў нашу Дзяржаўную бібліятэку імя Леніна, хацела пазнаёміць яе з чытачом-афіцэрам, які, як прызнаўся, ведаў многае пра смерць народнага песняра і мог расказаць некаторыя падрабязнасці, і пачула, што Уладзіслава Францаўна і без чытача-афіцэра ведае ўсё...

Цікавы ліст на маё імя прыйшоў з Растоўскай вобласці (станіца Дубянцоўская) ад Раісы Андрэеўны Багачовай (Дзе толькі не чытаюць цяпер «Літаратуру і мастацтва»!). Прыводжу яго амаль цалкам, бо і перакладаць не трэба — напісаны па-беларуску:

**«Прачытала ў «ЛіМе» Вашы артыкулы пра Янку Купалу. Чакаю з нецярплівасцю наступныя публікацыі аб смерці паэта...**

**Я родам з Гомельшчыны, там вучылася, жыла, працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры. У 1973 г. давялося пакінуць родную Беларусь і пераехаць на Дон.**

**У 1967 г. на зімовых канікулах я паехала ў Маскву. Там мяне пазнаёмілі з Уладзімірам Мікалаевічам Дубоўкам. Ён мяне запрасіў у госці. Гэта было 7 студзеня 1967 г. (на «каляды» — напомніў паэт). Дубоўкі перахварэлі цяжкім грыпам і яшчэ не выходзілі на вуліцу. Хоць яны былі не зусім здаровыя, але была такая цікавая размова, што мы прагаварылі чатыры гадзіны. Вядома, тэма гаворкі — літаратура, пісьменнікі, паэты. Што расказвалі пра Я. Купалу? Наступнае:**

**Купала і Дубоўка сябравалі. З цеплынёй успаміналі паэта і яго добрую Луцэвічыху. Потым паказалі фотаздымак, які падарыў паэт паэту ў 20-х гадах. На ім рукою Купалы (здаецца, алоўкам) напісана: «Уладку ад *Купалы*».**

**Расказвалі, смяяліся. Успаміналі і добрае, і горкае, цяжкае. Дубоўка з лагоднай усмешкай успамінаў, як былі яны разам з Купалам у Грузіі, жонкі іх з імі...**

**Потым Уладзімір Мікалаевіч расказаў пра трагічную смерць Я. Купалы. Сказаў так: мне расказвалі ХЛОПЦЫ, вядома ж, меў на ўвазе — *беларускія пісьменнікі*: Купала прыехаў у Маскву. Тут было многа беларускіх пісьменнікаў. Аднойчы ён пайшоў запрасіць да сябе ў госці пісьменнікаў, якія жылі ў гэтай жа гасцініцы. Прыйшоў, запрасіў і: «Дык я пайшоў, буду чакаць вас праз колькі хвілін». А яны кажуць: «Дык мы ж гатовы і пойдзем разам». Купала адказаў, што разам не трэба ісці, што ён, як гаспадар, павінен сустрэць іх на парозе. «Я пайду, а вы следам, я вас сустрэну».**

**Калі госці выйшлі, ужо здарылася няшчасце.**

**Дубоўка памаўчаў, потым так хуценька, як бы ўспомніўшы вельмі важную дэталь, дадаў:**

**— Ён быў не выпіўшы, расказвалі.**

**Зноў памаўчалі. Асцярожна яшчэ дадаў:**

**— Казалі, што бачылі тады, як па лесвіцы хутка прабег малады афіцэр.**

**І ўсё.**

**Я нічога не распытвала. Заўважыла я, што пасля ўсяго перажытага ў высылцы яны былі асцярожныя, хоць і хацелася ім пагаварыць свабодна, вольна.**

**Праўда, Марыя Пятроўна дадала:**

**— Кажуць, Уладзіслава Францаўна вельмі гаравала, што не паехала з ім у Маскву. Была б яна з ім, гэтага б не здарылася.**

**Дубоўка не сказаў мне, хто яму расказваў, проста «хлопцы», не сказаў, каго Купала запрашаў у госці. Ды гэта ж пры размове са мной і не трэба было, галоўнае — як загінуў паэт...**

**Думаю пра Купалу. А не магло быць так: Купала пайшоў зваць да сябе гасцей. Зайшоў да Лынькова, доўга не быў. Выйшаў. На гэтым жа паверсе ў другім нумары таксама сябры. Не маглі ж усе беларусы быць у той час у Лынькова, іх жа было многа тады ў гасцініцы. Пазваў, пайшоў у свой нумар, дзе накрылі стол. Не дайшоў. А калі здарылася няшчасце, то, можа, і не вельмі ішлі ў сведкі тыя, хто бачыў штосьці ці чуў. Кожнаму не хацелася быць там, дзе быў, напрыклад, Уладзімір Дубоўка».**

Адкідваючы недакладнасці і супярэчлівасці (а іх нямала і ва ўспамінах і ў лістах, што цытаваліся раней і цяпер — напрыклад, «у нумары ў Купалы сядзелі госці» (Ф. Т. Канстанцінаў), «пасля абеду ў верхнім рэстаране гасцініцы» (З. В. Абрамава) і г. д., тым не менш, мне здаецца, ёсць усе падставы ўсумніцца ў правільнасці афіцыйнай версіі смерці паэта. Выяўляецца ж — былі людзі, якія бачылі, як загінуў Янка Купала. Баяліся яны ісці ў сведкі, бо «кожнаму не хацелася быць там, дзе быў, напрыклад, Уладзімір Дубоўка», як *піша* Р. А. Багачова, ці сведкі не патрабаваліся тым, хто расследваў «справу» смерці нашага народнага песняра?..

Што яшчэ можна да ўсяго сказанага дадаць?

Янка Купала ўжо да рэвалюцыі быў адным з самых аўтарытэтных людзей Расіі, пра што сведчыць хоць бы такі факт: калі падпісваўся заклік «Да рускага народа» (з выпадку крывавага паклёпу на яўрэяў) — калектыўны пратэст у сувязі са справай М. Бейліса, то побач з імёнамі А. Блока, М. Горкага, Л. Андрэева, У. Караленкі, А. Серафімовіча, В. Засуліч і іншымі стаяла і імя Янкі Купалы. (Гл. газету «Речь» ад 30 лістапада 1911 г.) У паслярэвалюцыйны час імя Янкі Купалы набыло яшчэ большую папулярнасць, яно ўвасабляла Беларусь і было шырока вядома не толькі ў Савецкім Саюзе, але і далёка за межамі. Невыпадкова Янку Купалу была прысуджана ў ліку чатырох першых савецкіх пісьменнікаў разам з А. Талстым, М. Шолахавым, А. Твардоўскім перад самаю вайною (15 сакавіка 1941 г.) Сталінская прэмія. Арыштоўваць Купалу, садзіць у турму ці пасылаць у лагер, ды яшчэ ў тыя нялёгкія чэрвеньскія дні 1942 года, калі Беларусь сцякала крывёю пад нагамі акупантаў, расло там усенароднае супраціўленне, разгортваўся падпольны і партызанскі рух... Да таго ж, сам Купала ненавідзеў фашыстаў, выступаў у друку і па радыё, пісаў вершы, у якіх заклікаў не скарацца ворагу, змагацца з ім... Але і юбілей спраўляць, даваць узнагароду... Не, прасцей было піхнуць яго ў пралёт лесвіцы. Сталін — і гэта сёння пацверджана, даказана — не дараваў ні аднаму чалавеку, хто яго не любіў. А што Янка Купала не любіў Сталіна, пра гэта гаварыў не толькі А. Астрэйка, але і П. Броўка, выступаючы 30 студзеня 1962 г. на пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. Каб нейкім чынам зняславіць, ачарніць паэта, кінуць на яго цень, і была пушчана плётка, быццам у акупіраваным Мінску беларускія нацыяналісты назвалі вуліцу яго імем, *што было няпраўда* — ні ў адным прафашысцкім выданні, што траплялі мне на вочы (а іх трапляла нямала), — імя Янкі Купалы не сустракаецца. Нават калі ён памёр (дакладней, загінуў) акупацыйнымі ўладамі было забаронена даваць пра гэта хоць якое паведамленне. Значыцца, шукалася прычына, каб не спраўляць юбілей, не праводзіць вечар...

Па ўсім відаць, адпрацоўваліся розныя варыянты, пакуль не выбраны быў адзін, самы надзейны — знішчыць паэта...

Хто скінуў у пралёт лесвіцы Янку Купалу? Тыя трое, якіх бачыў А. Астрэйка і пра якіх піша ў сваіх успамінах З. В. Абрамава?.. А, можа, ублытана была ў гэтую справу і яшчэ адна асоба — жанчына, пра якую гаварылі і гавораць многія?.. Сведка была тая жанчына, што так тэрмінова пакінула гасцініцу, ці саўдзельніца злачынства?..

Па тэлефоне, пры сустрэчах, у запісках мне раяць пагледзець тую «справу», што была заведзена пасля смерці паэта — там, маўляў, павінна быць сказана пра яго смерць праўда. Шчыра кажучы, я не веру ў «справы», якія заводзіліся часта самімі ж забойцамі... Да таго ж, як гаварыў у адным са сваіх інтэрв'ю («Книжное обозрение» ад 28 кастрычніка 1988 г.) вядомы філосаф і гісторык Р. А. Мядзведзеў, «у нас у краіне не варта пераацэньваць значэння архіваў, бо многія важнейшыя рашэнні і падзеі не знайшлі там ніякага адлюстравання ці нават свядома скажаліся. Вельмі многія важнейшыя дакументы проста знішчаліся...»

Дадам ад сябе: пераставалі існаваць, знікалі непажаданыя сведкі, а іх паказанні не браліся пад увагу ці паліліся. Даказвалася любым шляхам тое, што было ў той час выгадна, што трэба было даказаць... Выпадак з Я. Купалам — ці не такі ж... Версія, што паэт загінуў сам — упаў у пралёт лесвіцы, што ў яго смерці ніхто не вінаваты, задавальняла ў той час усіх... Яна і была прынята за афіцыйную...

Яшчэ ў трыццатым годзе Янка Купала адчуў, што час, у які ён жыве, не для паэтаў. У лісце да А. Чарвякова — зноў паўтару — ён пісаў: «Відаць, такая доля паэтаў. Павесіўся Есенін, застрэліўся Маякоўскі, ну і мне туды за імі дарога».

Лёс, аднак, распарадзіўся інакш. Янка Купала, па ўсёй верагоднасці, загінуў ад рук забойцаў.

**P. S.** Калі праца над гэтым матэрыялам была закончана, у друку («Літаратура і мастацтва», снежань, 1988 г.) з'явіўся артыкул Г. Коласа «...І засумуецца патомак» — яшчэ адна публікацыя на тэму жыцця і смерці Янкі Купалы. Што пра яе можна сказаць? Зашмат у ёй непатрэбнай у такіх выпадках палемічнасці і недаверу, а то і непавагі да апанентаў. Так, ва ўспамінах П. Глебкі, Я. Мазалькова і ў іншых ёсць недакладнасці... І наша задача — аддзяліць праўду ад няпраўды. Але рабіць гэта трэба на падставе фактаў, а не эмоцый і домыслаў. Па-другое, варта ні на хвіліну не забываць, што размова ідзе пра Янку Купалу — нашу славу і нашага нацыянальнага генія. І тут гонару не робяць аўтару розныя вольнасці, а тым больш іранічныя пасажы, накшталт: «Вось «берыеўскі» варыянт, з наіўна-смешнаватым «уцяканнем» берыеўцаў: быццам — «ратаваліся, каб іх ніхто не затрымаў» (ото ўлупіў бы ім нябожчык Анатоль Астрэйка, каб дагнаў, — як той мужык, які злавіў мядзведзя: «Дык вядзі яго сюды!» — «Ды не ідзе!» — «Дык сам ідзі»...). Навошта гэта, калі ідзе пошук праўды, ісціны?.. Што ж да А. Астрэйкі, дык, як вядома, ён нябожчыкам тады, у 1942 годзе, не быў... Нябожчыкам ён стаў пазней, а каб не стаў, дажыў да сённяшніх дзён, ён, я ў гэтым упэўнены, унёс бы яснасць у многае, што датычыць апошніх дзён Янкі Купалы і яго смерці, бо па просьбе самога песняра і некаторых старэйшых пісьменнікаў амаль не адлучаўся ад Івана Дамінікавіча. Чаму менавіта А. Астрэйку выпала такая місія? Мусіць, таму, што ён быў маладзейшы, вальнейшы за іншых па рабоце, да таго ж, быў здаравяк і вельмі любіў Івана Дамінікавіча. А вось чаму сам Я. Купала і старэйшыя пісьменнікі прасілі А. Астрэйку не адлучацца, суправаджаць песняра ўсюды па Маскве? Пра гэта варта падумаць. Ці таму, што Я. Купала быў хворы, і баяліся, каб з ім чаго не здарылася на вуліцы, ці таму, што адчувалі нешта іншае, можа, сёй-той нават здагадваўся пра блізкую бяду... І заўвага Г. Коласа, што Л. Александроўская «і ў «берыеўскі» варыянт не вельмі верыла: «Яны б не сталі гэта рабіць у гэткім месцы — у гасцініцы «Масква», адпадзе, калі сказаць, што Я. Купала ў гэтыя апошнія дні свае амаль нідзе не бываў адзін, нават у нумары гасцініцы... Калі бачылі А. Астрэйка і пакаёўка тых, хто сачыў за песняром, то напэўна ж мог бачыць іх і сам Купала. І таму не дзіўна, чаму так настойліва прасіў ён усіх, хто бываў у яго ў нумары, не пакідаць аднаго, астацца разам з ім начаваць... Юбілей набліжаўся, вечар быў аб'яўлены, і адцягваць надалей расправу з паэтам было нельга... Да таго ж, акрамя «мінусаў», «гасцінічны» варыянт, як мы цяпер ведаем, меў і свае «плюсы»... І апошняе, па ўсёй верагоднасці, было ўлічана забойцамі...

У той дзень, калі здарылася з Я. Купалам бяда, А. Астрэйку выклікалі па справе засылкі яго ў тыл ворага. І затрымалі — выпадкова ці не? — позна. І не ад А. Астрэйкі ўцякалі «берыеўцы». Хто-хто, а яны добра ведалі, што бывае з тымі, хто не выканаў задання «чыста», «гарэў на мокрым»... Не шкадавалі ж нікога: не можаш — не бярыся, папаўся — адказвай...

Не хочацца ўступаць у спрэчку з Г. Коласам і па некаторых іншых момантах. Мяркую: прыведзены вышэй ліст М. Ц. Лынькова да Л. М. Федчанка даказвае, што за тыя «тры-чатыры» хвіліны, што мінулі, калі выйшаў Я. Купала з нумара М. Лынькова і *пазванілі*, «што Янкі Купалы няма больш жывога», не мог паэт пабываць у Ц. С. Гарбунова і «бабэхнуць» па стале кулаком... Калі нешта падобнае і было, дык не ў гэтыя «тры-чатыры» хвіліны... Праўда, П. Глебка ў «барысаўскім» выступленні *гаварыў пра* «дзесяць-пятнаццаць» хвілін... Але ж Г. Колас П. Глебку не верыць, усюды бачыць яго няшчырасць і нейкія «падтэксты» Чаму ж ён у гэтым немалаважным выпадку паверыў П. Глебку, а не М. Лынькову? Каб «звесці» ў адно «тэлефонны званок» і размову — «нязгоду» Я. Купалы з Ц. С. Гарбуновым? Але ж, як ужо высветлена, М. Лынькову, калі ён папрасіў сваіх гасцей выйсці на балкон, не Ц. С. Гарбуноў званіў, а званіла партызанка Ірэна. «Няўжо Міхась Ціханавіч Лынькоў нікому не сказаў, куды паклікалі Купалу? Хто паклікаў?..» — пытае Г. Колас. Выявілася: сказаў — сказаў жонцы, Софіі Захараўне...

**Выклікаюць пярэчанні і некаторыя іншыя мясціны ў гэтай публікацыі. «Хіба Купалаў нумар быў абсталяваны абрусам-самабранкай? Альбо Глебка зноў расшчыраваўся на «звесткі трошкі іншага парадку»?» Гэта з выпадку таго, што, як сцвярджаў у «барысаўскім» выступленні П. Глебка, пры ўскрыцці нумара пасля смерці Я. Купалы ў яго быў сервіраваны «стол на чатырох асоб». Але няўжо Я. Купала за «дзве-тры гадзіны», калі развітаўся з Я. Мазальковым і накіраваўся да М. Лынькова, не мог выйсці і «арганізаваць» гэты стол, а то і заказаць яго яшчэ раней? У гэтым выпадку ў Г. Коласа не хапіла «фантазіі», а вось каб лавіць П. Глебку на «няпраўдзе», гэтай фантазіі хоць адбаўляй. Напісаў П. Глебка, быццам у нумары з М. Лыньковым жыў *К. Крапіва*. Ну, *мог і памыліцца* Пётр Фёдаравіч, не ведаць, прыехаўшы з Калінінскага фронту, хто з кім жыве. Ці К. Крапіва мог раней жыць разам з М. Лыньковым, а потым, калі выдзелілі яму асобны пакой, выбрацца, перасяліцца... Дык што, на падставе гэтага абвінавачваць П. Глебку ва ўсіх смяротных грахах, не верыць нават у яго *шчырыя* пачуцці, якія выказаў той у сваім лісце да народнага песняра? А намёкі, намёкі якія, скажам, хоць бы наконт таго ж «сервіраванага стала на чатырох асоб»? «А мо Купала выправадзіў Мазалькова — па сваёй шляхочай далікатнасці: каб не адмовіць Глебку — госцю з франтавой газеты — пафранціць адрошчанымі вусамі перад якой прывабна-простай «тылавой» кампаніяй («пагаварыць, павалачыцца»)? І Купала на той вечар стаў міжволі беспрытульны (не хацеў вяртацца ў якасці «чацвёртага» ў свой нумар)? Нездарма ж у Глебкі блытаюцца раніца і вечар, нумары, паверхі і міфічныя кангрэсы з дэтэктыўнымі замахамі на «кангрэсменаў»?» і г. д. І ўсё — насуперак фактам, логіцы тых нялёгкіх ваенных гадоў... Не зусім этычна гучыць і прэтэнзія Г. Коласа да К. Крапівы, маўляў, чаму той маўчаў, калі Г. Колас яму пазваніў. А што Кандрат Кандратавіч павінен быў адказваць, тым больш па тэлефоне?..**

У артыкуле ёсць спасылка на сведку — архітэктара Г. У. Заборскага, які ў той чэрвеньскі вечар 1942 года быў у гасцініцы «Масква» і на свае вочы бачыў, як Я. Купала, стоячы на лесвіцы «спіной да парапета, абапёршыся на нізкаватыя парэнчы ў разняволеным «напаўпрысеўшы», — размаўляючы аб нечым з нейкай сімпатычнай парай маладых: «яна і я», «весела, па-маладому, лёгка засмяецца, узмахне абедзвюма рукамі, і... дзяўчына рынецца лавіць, хапаючы за ногі, за калашыну, за туфлі...» І ўжо нібыта не Купала падаў у пралёт, а падала яго цела (Купала ад смеху і памёр!)... Але чаму цела апынулася не на прыступках лесвіцы, як гэта звычайна бывае, калі здараецца з чалавекам няшчасце — чалавек падае, дзе стаіць, да *сваіх ног*,— а пераляцела цераз парэнчы? Хто падняў яго, перакінуў? І ці сапраўды ратавала «яна» Я. Купалу? А мо падштурхоўвала, скідвала ў пралёт? Ды і дзе потым падзяваліся гэтыя загадкавыя «яна і я»? Мяркуючы ж па ўспамінах жонкі М. Ц. Лынькова Софіі Захараўны ды і паводле слоў Ф. Т. Канстанцінава расследванне абставін смерці Я. Купалы праводзілася — помніце, «афіцыйнае» і «неафіцыйнае». І не дапытаць «сімпатычную пару маладых», ды і астатніх сведак... Значыцца, ці сведкі былі ў гэтай справе лішнія, непажаданыя, ці...

Але, мабыць, хопіць пра публікацыю Г. Коласа. Тым больш, што яна не абвергла, а ў некаторых момантах нават *пацвердзіла тыя «здагадкі» пра* смерць Янкі Купалы, што выказалі людзі, якім няма падстаў не верыць.

**1000-годдзе хрышчэння Русі стала значнай падзеяй не толькі для веруючых, але для ўсіх грамадзян краіны. Шырока адзначаўся юбілей і ў нашай рэспубліцы.**

**Вяртаючыся да тэмы 1000-годдзя хрышчэння Русі, прапануем чытачам «ЛіМа» гутарку нашага няштатнага карэспандэнта, прафесара Мінскага інстытута культуры У. Няфёдава з мітрапалітам Мінскім і Беларускім ФІЛАРЭТАМ, вядомым дзеячам Рускай праваслаўнай царквы і сусветнага міратворчага руху.**

# З НАДЗЕЯЙ НА БУДУЧЫНЮ



**— Чалавецтва сёння сутыкаецца з вострымі сацыяльнымі, духоўнымі, маральнымі крызісамі. Усё гэта не настройвае на радасны лад. Аднак ці такая ўжо безвыходная рэальнасць? Як вы мяркуеце?**

— Будзем рэалістамі і пагодзімся, што ёсць сапраўды нямала падстаў для песімізму. Але мы, прадстаўнікі Рускай праваслаўнай царквы, верым усё ж, што чалавек нясе ў сабе сапраўды боскія сілы і што ён пераможа ўсе дэструктыўныя тэндэнцыі ў сваёй прыродзе. Таму канцэпцыя новага мыслення блізкая нам, хрысціянам. Яна сугучная закліку апостала Паўла не верыць у закамянеласць, коснасць людскога мыслення. У Пасланні да Рымлянаў ён патрабаваў ад кожнага хрысціяніна пастаянна «абнаўляць розум». Такое «абнаўленне» здольна аб'яднаць расколаты супярэчнасцямі свет і забяспечыць яму лепшую будучыню.

**— Руская праваслаўная царква адзначыла 1000-годдзе хрысціянства на Русі ва ўмовах перабудовы, якая вельмі высока паставіла прынцыпы духоўнасці, маральнасці, сумлення. Прынцыпы, што маюць вялікае значэнне для веруючых і атэістаў. Падрыхтоўка да юбілею паказала, што і адны, і другія могуць знаходзіць агульную мову.**

**Святкаванне гістарычнай падзеі садзейнічала развіццю ідэі міру, свабоды, братэрства, любові, узаемаразумення і супрацоўніцтва на ўсёй планеце, і ў нас, на беларускай зямлі.**

— Так, мы адзначалі высокі юбілей з думкаю кансалідаваць нашы духоўныя сілы, сілы людзей царквы: мы запрасілі на святкаванне прадстаўнікоў рымска-каталіцкай царквы, царквы евангельскіх хрысціян-баптыстаў, іншых хрысціянскіх канфесій. Да нас, у Беларусь, прыехалі пасланцы Антыахійскага патрыярха, Александрыйскага патрыярха, Балгарскай праваслаўнай царквы, некалькі дыпламатаў. Польская праваслаўная царква была прадстаўлена архіепіскапам Беластоцкім Савам. Такім чынам, сабралася вялікая хрысціянская сям'я, якая падзяліла ўрачыстасць праваслаўных беларусаў. Так, яна супала з вельмі змястоўным перыядам у жыцці нашай краіны: з часам абнаўлення ўсіх бакоў яе жыцця. Перабудова, галоснасць — паняцці, якія зараз бытуюць ва ўсіх мовах без перакладу. Ужо гэта адно сведчыць аб тым, што падзеі, якія ў нас адбываюцца, глыбокія і важныя не толькі для нашага грамадства.

**— Нядаўна спаўнілася 70 гадоў з часу абвяшчэння Дэкрэта аб адлучэнні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы. Вы, уладыка, вядомы як наватар у будаўніцтве духоўна-рэлігійнага жыцця ў Беларусі...**

— Удасканаленне беларускага духоўна-рэлігійнага жыцця — пастаянны працэс, які спее нябачна і нарэшце, у нейкі момант, праяўляецца. Лічу, што гэты працэс актывізаваўся ў час падрыхтоўкі да 1000-годдзя хрышчэння Русі. У нас прайшоў навуковы калёквіум, дзе былі закрануты і пытанні развіцця беларускай культуры. Побач са свяшчэнаслужыцелямі ў ім прымалі ўдзел вядомыя вучоныя — дактары навук А. Грыцкевіч, А. Мальдзіс. Нас згуртаваў клопат аб маральным росце народа, аб зберажэнні і памнажэнні высакародных нацыянальных традыцый беларусаў.

**— Мы гаворым пра аб'яднанне намаганняў веруючых і няверуючых пры ўмове палітычнай лаяльнасці царквы. Дзяржава гарантуе свабоду рэлігійных адпраўленняў і выканання царквой абавязацельстваў перад веруючымі грамадзянамі, царква спавядае прынцып поўнай павагі інтарэсаў дзяржавы, захавання свецкага характару грамадскіх арганізацый. Ці не здаецца вам, што апошнім часам назіраецца адыход ад дагматызацыі прынцыпу сацыяльнай нейтральнасці царквы да прапаганды ідэй яе грамадскай актыўнасці?**

— Я адкажу коратка. Мы проста ўсведамляем сябе паўнапраўнымі грамадзянамі. Я думаю, што для кожнага веруючага ў нашай краіне сёння няма такой праблемы, як лаяльнае стаўленне да дзяржавы.

Сапраўды, царква цяпер павышае сваю сацыяльную актыўнасць. Яна ўносіць уклад у розныя фонды: у фонд культуры, скажам, у дзіцячы фонд, падключаецца да службы міласэрнасці. Аднак гэтае пытанне вельмі далікатнае і не такое простае.

**— Як вядома, у Маскве веруючыя людзі прыходзяць у бальніцы, каб дапамагчы даглядаць цяжкахворых...**

— Так, гэта якраз і ёсць момант праяўлення сацыяльнай актыўнасці царквы. У пропаведзях мы кожнага веруючага заклікаем служыць бліжняму. На юбілейным вечары, прысвечаным 1000-годдзю, які праходзіў у оперным тэатры, да мяне падыходзілі ўрачы, пыталіся, калі ж мы сустрэнемся і абмяркуем канкрэтныя пытанні супрацоўніцтва. У мяне ў сувязі з гэтым узніклі пэўныя меркаванні. Перш царква сама мела ўстановы міласэрнасці: дамы-прытулкі для састарэлых і сірот, бальніцы, сама арганізоўвала і адкрывала іх. Цяпер жа мы павінны прыйсці ў бальніцы. Але — на якіх падставах, як усё гэта будзе наладжана? Адзін галоўурач з поўным разуменнем дае хрысціянам магчымасць выконваць тыя альбо іншыя функцыі ў бальніцы. Другі робіць гэта толькі таму, што гэта — можна, хоць прынцыпова не падзяляе ідэю прыходу веруючых у бальніцу. Тут трэба вельмі добра падумаць і скласці правілы аб добраахвотных дружынах веруючых, якія гатовы несці службу міласэрнасці. Неабходна выпрацаваць прынцыпы ўзаемаадносін свецкага і царкоўнага бакоў, каб не кампраметаваць добрую справу.

**— Вы гаварылі аб удзеле царквы ў рабоце фонду культуры. Ці не маглі б вы больш падрабязна сказаць пра гэта?**

— Я думаю, што сам фонд культуры яшчэ шукае формы служэння культуры. Што гэта — проста збіранне помнікаў? Тады, значыць, мы паўторым функцыі музеяў. Ці гэта фонд, які думае аб захаванні культурных традыцый, аб духоўным узбагачэнні народа, аб адшукванні помнікаў, вяртанні іх да жыцця, прапагандзе іх? Царква ўсё гэта падтрымлівае. Але яна супраць складзіравання помнікаў культуры, што, на жаль, мы назіраем сёння ў запасніках музеяў. У свой час веруючыя, хоць і з болем, аддавалі абразы, прадметы культу шматлікім камісіям, спадзеючыся, што рэчы будуць служыць людзям, жыць у музеях. Аказалася, што помнікі даўніны проста складзіраваліся, многія псаваліся, нішчыліся, таму што захоўваліся абы-як. Самі работнікі музеяў, дарэчы, б'юць трывогу з прычыны таго, што велізарную колькасць помнікаў культуры немагчыма сёння ні рэстаўрыраваць, ні паказаць, ні захоўваць. Вось у чым праблема.

З'яўленне фонду культуры — гэта натуральны рух нашай нацыянальнай душы. Мы доўгі час не звярталі неабходнай увагі на духоўную і інтэлектуальную культуру краіны. Гаворка ідзе не толькі пра карціны ці абразы, але і пра старажытныя кнігі, творы паэзіі, якія былі забаронены і забыты. Фонд культуры павінен іх «высветліць», падказаць выдавецтвам, што трэба выдаваць са спадчыны продкаў.

**— Залаты фонд асобы — годнасць, сумленне, рэалізм мыслення. Удакладніце, калі ласка, пазіцыю царквы ў дачыненні да нацыянальна-моўнай, агульнакультурнай праблематыкі ў Беларусі. Сёння многія паддаліся нацыянальнаму песімізму...**

— Для яго, мне думаецца, няма падстаў. У тым, што руская мова ўвайшла так глыбока ў жыццё нашай шматнацыянальнай дзяржавы і нас згуртавала, не трэба шукаць нейкай пагрозы нацыянальным культурам. У нас паспяхова развіваецца беларуская культура. Вось я гаварыў пра навуковы калёквіум. Я радаваўся таму цудоўнаму настрою, які панаваў на ім — двухмоўны, руска-беларускі: кожны гаварыў на той мове, на якой хацеў. Гэта акалічнасць толькі падкрэсліла каштоўнасць супрацоўніцтва людзей розуму і гонару. Царква ніколі не выступала супраць развіцця нацыянальных культур, наадварот, яна садзейнічала яму. На тэрыторыі Расійскай імперыі яна несла асвету малым народам, клапацілася пра тое, каб ім былі зразумелы слова боскае і свяшчэннае песнеспяванне, богаслужэнне. Царкоўнаславянская мова вельмі блізкая да моў беларускай, украінскай і рускай.

У царквы ёсць розныя шляхі служэння дабрабыту народнаму. Калі цяпер моладзь настойвае на богаслужэнні на сваёй нацыянальнай мове, царква гэтаму не пярэчыць. Важна толькі, каб тут не было месца модзе, часоваму захапленню, каб усё было сур'ёзна. Таму я і паставіў пытанне аб сучасным перакладзе на беларускую мову Новага запавету: наяўныя пераклады далёка не дасканалыя — кажу гэта са слоў дасведчаных людзей. Мову беларускую мы павінны ачысціць ад іх напластаванняў, каб яна сапраўды была мовай народа, прасякнута была народным духам, а не стваралася па прынцыпе: толькі не быць падобнай на рускую.

**— Уладыка, вы закранулі пытанне міратворчай місіі царквы ў сучасным жыцці...**

— Так царква непарушна служыць прымірэнню людзей, нацый, дзяржаў на працягу сваёй тысячагадовай гісторыі.

Цяпер няма такіх падзей, якія б не датычыліся ўсіх нас. Лёс сям'і зямной стаў настолькі ўзаемазалежным, што ўсё, што адбываецца, адгукаецца калі не фізічным, дык духоўным болем у сэрцы кожнага, дзе б што ні здарылася.

Ужо ў дыскусіях, якія праходзілі ў 1982 годзе за «круглымі сталамі», арганізаванымі рабочым прэзідыумам сусветнай канферэнцыі рэлігійных дзеячаў, якія выступаюць за выратаванне свяшчэннага дару жыцця ад ядзернай катастрофы, выявіліся парасткі таго, што мы сёння называем новым мысленнем. І сёння дакументы канферэнцыі ўспрымаюцца вельмі злабадзённа.

Мы ўсе ўважліва сачылі за ходам XIX партыйнай канферэнцыі, хоць мы, царкоўныя людзі, не члены партыі. Мы шчыра радаваліся адкрытай размове на канферэнцыі. Не буду гаварыць пра асобныя выступленні, былі, натуральна, і супярэчлівыя — галоўнае, — мы адчувалі зацікаўленасць у шчырай вялікай гаворцы і Генеральнага сакратара, і селяніна, і паэта, і воіна. Няхай не прагучалі на канферэнцыі галасы царкоўнаслужыцеляў ці рэлігійных дзеячаў, але малітва царквы аб поспеху, аб добраразуменні гэтага форуму была. Мы ўсе жывём спадзяваннем на светлую будучыню.

СТАРОНКІ ЎСПАМІНАЎ

# СЛОВА ПРА НАСТАЎНІКА

З Гаўрылам Іванавічам Гарэцкім лёс мяне звёў у 1965 годзе, калі я абараняў кандыдацкую дысертацыю, а Гаўрыла Іванавіч быў яе апанентам. Менавіта ў гэтым годзе да яго прозвішча было дададзена слова «акадэмік», высокае званне, якое адабралі ад яго на доўгія 35 гадоў. Тады ж я наведаў сціплую кватэру Гарэцкіх у Дзедаўску, больш за 100 кіламетраў ад Масквы, дзе Гаўрыла Іванавіч працаваў галоўным геолагам інстытута «Гідрапраект». Ніяк не ўкладвалася ў галаве: чалавек, чые працы вядомы ва ўсім свеце, жыве ў сціплай кватэры, так далёка ад Масквы. Толькі праз пэўны час я даведаўся пра лёс малодшага з Гарэцкіх і ўразіўся: «Як можна цярпець такую крыўду?»

Больш дваццаці гадоў мне пашчасціла працаваць побач з Гаўрылам Іванавічам, які і натхніў мяне і далей займацца геалогіяй антрапагену, быў маім кіраўніком і кансультантам. І цяпер, калі яго не стала, успамінаюцца сумесныя падарожжы, праца ў розных кутках Беларусі.

Кожны свой дзень у полі Гаўрыла Іванавіч пачынаў з ліста да Ларысы Восіпаўны. Мы ўжо ведалі гэты звычай, таму імкнуліся з раніцы не дакучаць рознымі пытаннямі. Другі ўрок мы мелі ў час снядання. Асабліва ўражвалі адносіны Гаўрылы Іванавіча да хлеба. Звычайна ён браў дзве лустачкі і клаў каля сябе. Я доўга думаў, чаму ён так робіць? Можа, не забыўся сялянскі звычай, ці так навучылі яго прыслужнікі «вялікага вучонага ўсіх часоў і народаў»? Якая б страва не гатавалася на вогнішчы, на пытанне «як на смак?» чуўся адзін адказ: «На вышэйшым узроўні!». Ведаючы, што пасля аварыі, у якую ён трапіў у час працы на Доне, здароўе Гаўрылы Іванавіча не вельмі добрае, часам хацелася згатаваць яму штосьці смачнейшае, спажыўнейшае. Але заўжды чулі: «Адзін есці не буду!»

Гаўрыла Іванавіч вельмі любіў вогнішча. Калі была такая магчымасць, сціпла пытаў: «Можа, агонь раскладзем увечары?» Гадзінамі мог глядзець на полымя, мне здавалася, што менавіта ў такія часы ён думае над самымі складанымі пытаннямі геалогіі. Аднойчы я высунуўся як Піліп з канапель: «Гаўрыла Іванавіч! Аб якой навуковай праблеме вы цяпер думаеце?» Ён доўга не мог уцяміць, пра што я пытаю. Пасля адказаў: «Ведаеце, зараз я толькі чую як страляе агонь, а думкі? Думак зараз у мяне няма, я проста адпачываю і ўсё!».

Калі была вольная хвілінка, Гаўрыла Іванавіч хадзіў па грыбы. У яго быў цікавы дзённік, у які заносіліся ўсе баравікі, што траплялся на працягу пошукаў.

Аднойчы мы распялі свае палаткі на беразе Пцічы каля Глуска. У адну з раніц нехта з нас убачыў, што побач з палаткай аб'явіўся маленькі баравічок. Вядома, паведамілі пра падзею Гаўрылу Іванавічу. Пачулі: «А што калі зробім дослед, будзем штодня назіраць як ён расце?» Усе пагадзіліся. І — пачалося. Кожны дзень вярталіся з маршруту натоўпам, беглі да баравічка, глядзелі, наколькі падрос. Нехта нават зрабіў шыльду: «Грыб не чапаць! Ідзе дослед!» Так мы паехалі, не крануўшы яго нажом.

Ні ад кога я не чуў такой прыгожай беларускай мовы, такога маўлення, якім валодаў Настаўнік. Гэта мова гучала і на навуковых пасяджэннях. Калі прысутнічаў прадстаўнік другой рэспублікі ці краіны, які не разумеў нашу мову, Гаўрыла Іванавіч гаварыў па-руску. Так ён трымаўся «двухмоўя» І так ім карыстаўся.

Гаўрыла Іванавіч заўсёды аднолькава ставіўся і да масцітага вучонага, і да пачынаючага свой навуковы шлях. «Мы ўсе даследчыкі», — гаварыў ён. — Кожны мае права на сваю думку, свой погляд, свае ўяўленні па той ці іншай навуковай праблеме». Разам з тым ён не быў з тых, пра каго кажуць «добранькі». Некалькі разоў я бачыў Гаўрылу Іванавіча па-сапраўднаму раз'юшаным і заўсёды бескампрамісным, нават жорсткім. Асабліва, калі чалавек забываўся, што ён даследчык, навуковец, калі замест вывучэння фактаў, аналізу дзейнічалі амбіцыя, гонар, няўвага, або знявага чалавека, асобы. На міжнародных, усесаюзных нарадах Гаўрыла Іванавіч часта падкрэсліваў тое асаблівае месца, якое займае наша Беларусь у справе вывучэння геалогіі цяперашняга этапу развіцця Зямлі — антрапагену. Але гэта асаблівае яе месца, тлумачыў ён, вызначаецца не тым, што ён паходжаннем беларус, а тым што прырода і даследчыкі Беларусі далі ёй магчымасць заняць такое месца. Гэтым ён ганарыўся, дзеля гэтага жыў і працаваў, дзеля гэтага вучыў нас.

Хочацца верыць, што ўрад рэспублікі, навуковая грамадскасць, мы, яго вучні, усе, каму дарага наша навука і культура, зробім усё належнае, каб захавалася памяць аб выдатным вучоным і чалавеку.

Барыс ГУРСКІ,
доктар геолага-мінералагічных навук, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР.

І мы пайшлі шпарчэй, на што Шурачка смеючыся сказала б: яна ў лесе, як сярод вазонаў, што на акне стаяць. Дарогу перабягаў лясны ручай, па дзірване, па леташняй траве, гэты ўжо з чыстага вядра спяшаецца да ракі, конскі шчавук на дне чырванеў басанож, аж сцюдзёна робіцца, гледзячы, вада бегла нячутна слізгаючыся — і не азірнешся, як у сне.

Паступова рака цішэла, чысцела ў твары,— бурыя палявыя ручаі сюды не дабягалі,— нечакана і сама яна абярнулася ручаём, вось-вось, здавалася, слізгане з рук, упусціш галубовую нітку — недзе зусім блізка тут канчалася яе шаўковае прадзіва, казалі,— пад дубам. І вось ён, ён самы, стаіць, ускінуўшы на плечы аксамітны зялёны фрэнч, выдаваў бы багата, каб не хваравітасць. Але яшчэ звіняць і звіняць ключы ў кішэні, хоць во стаіш, не варушышся, усю дарогу звінелі,— яшчэ вада тут бягучая. Не, не той гэта дуб, можа, толькі напаткаўся яе хворы вартаўнік? Раптам дзінькнула ў апошні раз, быццам тыя ключы праз дзіравую кішэню зваліліся на зямлю — не відаць. Міжволі шукаеш пад нагамі згубу, мацаеш вачыма кожную грузалку, спадзеючыся, што пад ёй крыніца, далей і далей, пакуль не ўпрэшся ў вугал лесу. Там нешта вялікае, уседзючкі, тоілася ў кутку: стары мёртвы дуб, а каля яго бавілася дзікае дзіця вады— крыніца, гуляла ў белым чыстым пяску, яго далёка адносіла, аж да вёскі. Белым шляхам ішла рэчка ў свет... Пакідаеш гэтае месца як мага хутчэй, быццам першым убачыў яе мёртвага вартаўніка, і спяшаешся да людзей, каб сказаць ім пра яго, пашукаць ратунку. «Пойдзеш даўней з бабамі па траву, дык усюды крыніцы — люба глядзець!» — шчыравала неяк, расказваючы, Шурачка. Дзе яны дзеліся? Можа, хто не згледзеў — сек вартавое дрэва, выкачаў лес, спусціў спражняльны дух з балота... Хоць ты ідзі і наказвай яшчэ аднаму, акрамя хваравітага дуба, жывому вартаўніку ракі Мікалаю Тарайковічу, чалавеку таксама каля сотні гадоў, далёкая яму дарога да крыніцы — сам не наведаецца, а як жа бедаваў разам з дачкой Станіслаunion, калі знеслі за яго хатай малады бярэзнік, аж ухварэўся — такія людзі ўпільнаваліся б парадку і прыгажосці на зямлі. «Наш бацька ніколі дрэва з пня не зняў, век дровы гнілыя былі»,— шкадуе бярэзнік і Надзя.

**Не хочацца вяртацца дамоў, хадзіў бы, здаецца, збіраў вясенняе рабацінне цэльны дзень. Заходзіш, убачыўшы ўбаку дуб, ідучы на Карасі, як да старога чалавека на вуліцы — не мінеш моўчкі, нешта ды загаворыш, а ён стаіць сабе каля палявога каламутнага ручая, вялікі, магутны, чорнай маланкай распяты галіны напроці сонца. У полі, высока пад купалам неба, пяюць жаўрукі. Падымаешся на пагорак, як да пеўчых у царкве, бліжэй і бліжэй, каля шэрага каменя спыняешся, быццам ён дае знак: далей ісці няможна. Слухаеш і жаль бярэ, як у царкве: быццам тут пяюць і адпяваюць... Ці не такі набожны голас, як у гэтага поля, мела мая цётка Марыля на Пастаўшчыне. Галасіла па сыну, па брату, па сястры, маёй маці, сасланай з дзецьмі разам з мужам-асаднікам у Сібір, па мне, калі ўсе дарослыя там загінулі, спавівала плачам, забраўшы гадаваць, спявала на хрэсьбінах, на вяселлях, у полі — на адзін голас брала. Марылька як запяе, усе плачуць, казалі па вёсках, бо ў кожнага ёсць на душы нешта горкае. Спявала і да жывога і да мёртвага, каго з радні за сталом не было. Увесь род падымаўся, слухаючы, усе разам станавіліся, садзіліся на лаву, збіраліся — ішлі на памяць... І я каля каменя пастаяла са сваім родам, — апошняя, як над абрывам шырокай людской ракі. Божым дрэўцам слаўся каля ног маладзы крываўнік.**

Вада з дня ў дзень высмагае ўвачавідкі, гліна добра вымешана, ужо адвальваецца ад ног, ад капытоў, як цеста на святочныя булкі — гатова. Шурачка ўжо мые бялізну на дварэ, стаіць пара над яе начоўкамі, над ракой; рака спадае, усюды па беразе ляжаць змылкі — кусочкі абмуленага вадой дрэва. А сава зноў, шукаючы цяпло, заляцела ў комін да Карманава,— а нешта ж ды варожыць.

— Заўтра Благавешчанне, — пераймае Шурачка,— нічога рабіць не можна, бо, як мама казала, у гэты дзень нават птушка гнязда не ўе, а дзеўка і валасоў не расчэша. Нічога і не пазычай, бо лёгка на благое падрабіць. А я дык летась — цыганкі зайшліся, сталі прасіць,— якраз сыр рабіла і смятана, праўда, у мяне была, то я ім і дала. І нічога благога не сталася, што сама зарабіла, тое і мела... Трэба дзяліцца, бо ёсць і іхняя доля. Мама век казала, як сеяць ішла, памыецца, перахрысціцца і кажа: хай расце на долю і жабрацкую, і на калецкую, і на цыганскую. На нечыю ж ды ўродзіць, усё не прападзе...

Па мне дык Благавешчанне кожны раз, як толькі ўбачу на вуліцы Надзю — век да людзей з дабром. То ідзе з белымі козамі каля хаты, ланцуг на плячы, то ў склеп на пясчаны пагорак перабіраць насенку, то ў лес, за работай з раніцы да вечара, а ніколі галавы не спусціць, пэўна, сама прырода шануе яе прыгажосць. І Шурачка, і Надзя кажуць, што заўтра прыляціць бусел, і адна і другая гавораць упэўнена, быццам ён ім наказаў праз некага, што будзе абавязкова. Кажуць, што ён ужо недзе прыляцеўшы, ды хаваецца, бо як не ўхаваецца да Благавешчання, тады яму будзе холадна, пагода, маўляў, сапсуецца. Хоць ты, наслухаўшыся, вачэй не падымай, у зямлю глядзі, каб на птушку не папасці, не зашкодзіць, не падваражыць, як тая сава, што ціснецца на холад у комін.

— Аляксандра Мікалаеўна (у вочы яе Шурачкай не назаву), так мне добра ў вашай Іслачы, так усім цешуся, аж баюся — як перад сваім канцом...

— А мне дык усю жызню гэтак..., а зараз, глядзі, аж харашэй: галубо-о-ва неяк робіцца.— паказала яна рукой да ракі, павяла блізка, як над сваім брывом.

Кажуць, далей, за Траскоўшчынай, Іслач намнога шырэйшая і глыбейшая. Затое тут, каля вёскі, яна яшчэ такая маладая, як гэтыя людзі, што бяруць пачатак з самых чыстых крыніц. І варта толькі адысціся крыху, ад'ехацца ад гэтых мясцін,— шугане раптам нешта далоў з адзежы, доўга будзе сцякаць празрыстым плашчом, цішэй і цішэй галасы кропель, быццам выйшаў з тугой плыні, плыні ў адным напрамку — да вечнасці.

*З літаратурнай спадчыны*

# З МАЛАДНЯКОЎСКАГА ВЯНКА

**«Ад Сожа ціхага, ад берагоў» Вяхры, з зямлі старажытнай Мсціслаўшчыны прыйшоў у літаратуру здольны юнак Сяргей Фамін. Бацьку яго, селяніну па паходжанні, пашанцавала «выбіцца ў людзі» — стаць настаўнікам. Маці была непісьменная сялянка. Пасля рэвалюцыі частка былога Мсціслаўскага павета адышла да Смаленшчыны. У Манастыршчанскім раёне Смаленскай вобласці аказалася і родная вёска С. Фаміна Пепелеўка. Але ён цвёрда лічыць сябе беларусам, вучыцца ў Мсціслаўскай сямігодцы, заканчвае Магілёўскі педтэхнікум, БДУ.**

**Рана абудзілася ў юнака цяга да творчасці. Змяшчае допісы ў газетах. У 1925 г. пачынае друкаваць вершы. А ў наступным годзе крытык М. Аляхновіч ужо аналізуе яго творчасць, паведамляе, што паэтам напісана значная колькасць вершаў і паэма «Перазвоны восені» і што ў друку з'явілася толькі невялікая частка твораў паэта.**

**Пачынаў С. Фамін як тыповы маладняковец. Гімн рэвалюцыі, барацьба новага са старым, радасць маладосці — гэта асноўныя тэмы паэта. Сустрэнем у яго *і маладняксўскую атрыбутыку*, асабліва ў паэме «Балота» — густая аксамітная сінь, сонечныя дні, мітульга мяцеліц, касагораў белыя грудзі, каралі рос, серабро вясёлкавых крыніц, новай эры веянь, румянкавыя гоні, пунсовае ранне. Разам з тым крытыкі, а сярод іх вопытны Максім Гарэцкі, адзначаюць тонкае адчуванне верша, адшліфаванасць паэтычных радкоў, іх плаўнасць, мілагучнасць, дасканалае валоданне словам. Паэт шчасліва пазбегнуў фармалістычнага штукарства, бурапены, бяскрылай летуценнасці. Не паддаваўся ён бязвер'ю і песімізму. У яго вершах ярка выражаны жывое пачуццё, сапраўдны лірызм, яны вылучаюцца канкрэтнасцю вобразаў і паэтычных дэталей, у іх знаходзіць адлюстраванне складанасць грамадскіх зрухаў.**

**Паэт хутка сталеў. Пашыралася тэматыка. Істотная розніца заўважаецца паміж вершамі 1926 і 1928 гадоў. Усё менш і менш заставалася знешніх адзнак маладнякоўства. Актыўны ўдзел прымаў паэт у літаратурным жыцці, часта выступаў перад рабочымі, навучэнцамі, моладдзю.**

**У 1929 г. паэт здаў у выдавецтва зборнік вершаў «Дымнае жыта». Але кніжка свету не пабачыла. З наступнага года творчая актыўнасць рэзка знізілася. За наступныя пяць гадоў ён апублікаваў шэсць вершаў.**

**Хай гэта публікацыя напомніць, што ў беларускай літаратуры працаваў шчыры, сумленны, таленавіты паэт. Яго паэзія ў маладнякоўскім вянку зззяла адметнай і прывабнай кветкай. Не страціла яна свайго пазнавальнага і эстэтычнага значэння і ў наш час.**

**Георгій ЮРЧАНКА.**

**Сяргей ФАМІН**



●

Калыхнулася месяца сінь.
На двары па-асенняму вецер.
Па-асенняму хочацца сніць,
Па-асенняму зоры свецяць.
Вецер шэпча каханне галлю...
— Ты заходзь, мая любая,
смела!
Пацалункамі вытку «люблю»
Па канве тваіх шчок загарэлых.
Ў гэту ноч я не буду спаць.
Ты зайдзі, распляці свае косы!
Я у сэрца люблю насыпаць
Тваіх слоў залацістае проса.
Сёння восень гуляе садам.
Дарагая! Не бойся! Зірні!
Ты прыйдзі да мяне, мая
радасць,
Запалі ў маім сэрцы агні!
26.II.26 г.

●

Сіняй ноччу, ў месячную
замяць,
Дзе гараць ваўчыныя агні, —
Дуб самотны замахаў рукамі,
Глянуўшы на зрэзаныя пні.

І стагнаў, і галасіў ад гора...
А пасля, як замяць адцвіла,—
Нема ехаў высечаным борам,
І жалобна плакала піла.

Маладзік пагнуўся кветкай бэзу,
Паглядзеў, стуманіўся і знік...
А пад дубам плакала жалеза,
І маўчалі зрэзаныя пні...

І калі ад скрыпнуўшых саней
Конь стары прыгнуўся смутнай
мордай —
Заваліўся волат-дуб у снег
Урачыста, ўзбурана і горда...

*Рэху ў пнях* — нядоўга
пагалёкаць:
І замоўк разбуджаны прастор.
Быў пахож на могільнік далёкі
Адшумеўшы высечаны бор...
Студзень. 1928 г. Пепелеўка.

●

Пагубляла рубіны рабіна
і ад страты ў прастор загула...
Ў тонкаструнь залатой
павучыны
агарнулася жніўная гладзь.
*Па ярах, па сівых пералесках*
так выразны бярозы і пні.
Пад нагою ламаюцца трэскі...
Восень.
Ціха.
Празрыстыя дні.
На забытай званіцы — варона.
Вечарэе.
А ў далях — туман.
Непрыкметна у нашу старонку
Едзе ціха на санках зіма.
Пахне гостра яшчэ канаплянік,
пахне полем і вільгаццю ліп.
Звечарэла.
У шызым тумане
шолах шэрых зайцоў на палі...
Ноч.
Самотна, чуць чутна асіна
Прашаптала, мяжу замяла...
Пагубляла рубіны рабіна
і ад страты ў прастор загула.
1928 г.

*Наш каляндар*

# РУПЛІВЫ І ШЧЫРЫ ПРАЦАЎНІК



**У гэтыя дні Міхасю Ярошу было б шэсцьдзесят. Ён не дажыў да свайго юбілею, хоць і жартаваў у размовах, што яму наканавана доўгае жыццё, і спасылаўся пры тым на сваіх дзеда і бацьку, якія пражылі больш за восем дзесяткаў. Няўмольны лёс распарадзіўся інакш. Спякотным ліпенем 1987 года літаратуразнаўцы не стала.**

**Мне пашчасціла працаваць з Міхасём Рыгоравічам у адным аддзеле Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. І сёння з удзячнасцю ўспамінаю не толькі яго добразычлівыя і патрабавальныя выступленні *пры абмеркаванні планавых* тэм, але і яго цікавыя апавяданні пра сваю родную вёску Межная Слабада, што ў Клецкім раёне, пра падзеі мінулай вайны, пра гады вучобы і шмат пра што іншае.**

**Пасля заканчэння ў 1956 годзе аспірантуры пры Інстытуце літаратуры ён больш трыццаці гадоў працаваў у гэтым Інстытуце. У 1958 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю.**

**Міхась Ярош як літаратуразнаўца і крытык зрабіў нямала, асабліва ў даследаванні жыцця і творчасці Янкі Купалы, аб чым сведчаць яго шматлікія артыкулы і брашуры, прысвечаныя песняру, а таксама кнігі «Драматургія Янкі Купалы» (1959), «Янка Купала і беларуская паэзія» (1971), «Пясняр роднай зямлі» (1982), «Янка Купала і Якуб Колас» (1988). Машынапіс апошняй здаў у выдавецтва незадоўга перад смерцю. Ён прыняў актыўны ўдзел у выданні энцыклапедычнага даведніка «Янка Купала» (1986), з'яўляўся адным з аўтараў двухтомнай «Гісторыі беларускай *савецкай літаратуры»* (1964, 1966) і «Истории советской многонациональной литературы» (т. 4. 1972). Як адзін з сааўтараў «Истории белорусской дооктябрьской литературы» (1977) і «Истории белорусской советской литературы» (1977) у 1980 годзе стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа. Міхась Ярош сказаў сваё важнае слова пра творчасць Янкі Купалы, добра паказаў сувязь паэзіі і драматургіі песняра з жыццём, фальклорам, нацыянальнымі традыцыямі і традыцыямі сусветнай літаратуры, прасачыў творчую эвалюцыю мастака, яго ўплыў на развіццё беларускай культуры і літаратуры. Магчыма, сёння асобныя палажэнні даследчыка пра творчасць Янкі Купалы перыяду грамадзянскай вайны ці 30-х гадоў патрабуюць пэўных удакладненняў. Аднак у той час ён не змог па-іншаму пісаць. Ды і многае чытаецца паміж радкамі, а многае і сёння вызначаецца грунтоўнасцю і арыгінальнасцю думкі і, безумоўна, застанецца ў актыве беларускага купалазнаўства.**

**Як сур'ёзны і ўдумлівы даследчык выявіўся ў працы «Міхась Чарот» (1963), дзе разглядаецца жыццё і творчасць аднаго з яркіх пачынальнікаў беларускай савецкай літаратуры. Удумлівым аналізам вызначаюцца і тыя раздзелы кнігі «Беларуская савецкая лірыка» (1979, разам з В. Бечыкам), у якіх характарызуецца беларуская паэзія 20—30-х гадоў. Заслугоўвае ўхвалення і яго кніга пра жыццё і творчасць Петруся Броўкі (1981).**

**Міхась Ярош даследаваў галоўным чынам беларускую паэзію. Плённа ён вывучаў таксама драматургію і прозу. Яго працы пазбаўлены сухога эмпірызму. Ім уласціва праблемнасць і адначасова лёгкасць і свабода выкладання матэрыялу.**

**Шматграннасць і шырыня творчых інтарэсаў Міхася Яроша раскрылася і ў яго рэцэнзіях. Ён адгукнуўся, напрыклад, на кнігі «Палеская рапсодыя» Уладзіміра Дубоўкі, «Акрыленая рэвалюцыяй» Ніла Гілевіча, «Мая Іліяда» Уладзіміра Караткевіча. Пра што б ён ні пісаў, заўсёды быў шчырым і патрабавальным, зачараваным красой, непаўторнасцю і сілай мастацкага слова.**

**Анатоль ВЕРАБЕЙ.**



**З вялікім поспехам экспанаваліся творы самабытнага майстра на абласных і рэспубліканскіх выстаўках, у Маскве і за рубяжом.**

**Творчыя працы Дзмітрыя Паўлавіча Сапажынскага адзначаны ордэнам «Знак Пашаны», граматай Вярхоўнага Савета БССР, медалямі ВДНГ СССР.**

**Зараз Дзмітрый Паўлавіч на пенсіі. Але работнікі Брэсцкай ювелірнай фабрыкі, дзе ён працаваў шмат гадоў, не забываюць яго, часта наведваюць дома, дапамагаюць, раяцца.**

**І гэта натхняе, падтрымлівае народнага майстра. Нягледзячы на ўзрост, хваробу, Дзмітрый Паўлавіч па-ранейшаму не расстаецца з разцом.**

**З. ІЛЬЕЎСКІ.**

г. Брэст.

